

Гайнаўская майстэрня → 3


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714





Складанае мінулае → 9


http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 42 (3049) Год LIX

Беласток, 19 кастрычніка 2014 г.

Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


## Чарадзейная Княжая гара

Надзвычай цёплая кастрычніцкая субота. На сонцы тэмпература звыш дваццаці градусаў. Біялагічнай інтуітыўнасцю адводжу твар да сонца, а думкі накіроўваю ў зацішша душы. Уважліва наглядаю за восеньскімі краявідамі нашых падляшскіх вёсак. Даслоўна і ў пераносным сэнсе. Прытворны спакой восеньскай пары ў прадчуванні зімы. І нешта няўлоўнае, што прадказвае, мабыць, самае благое: восень жыцця традыцыйнай беларускасці Падляшша. „Ужо даспяваем", — так з лагоднасцю і тактоўнасцю гавораць пра сябе мае апошнія, так любімыя аднавяскоўцы, з якімі прыйдзецца мне неўзабаве развітацца пры выводных крыжах.

> Страх перад Судом Божым адчуваецца толькі ў мудрых галасах зубаўскіх векавых людзей. Разбурыць і апаганіць любыя могілкі — грэх вельмі цяжкі. Разбураны вечны спакой пахаваных можа нанесці на мясцовых нейкі праклён і пакаранне. І што сказаць Усявышняму, калі ўжо будуць судзіць?



Злева: Пётр Карпюк і Міхал Лісоўскі, мае экскурсаводы ў таемнае мінулае Зубава

# Княжае і панскае ЗУБАВА

Але пакуль я на трасе падарожжа ў Зубава з боку Кназазоў, што ў Бельскай гміне. На палях гудзяць бульба- і кукурузаўборачныя камбайны. Тут добрая зямля, а людзі ўмеюць гаспадарыць. Так было спрадвеку. Едучы ад Кназазоў з правага боку відаць зарослае маладым лесам натуральнае ўзвышша. Тут знаходзіцца найвышэйшы пункт у ваколіцы — Княжая гара — як называюць яе мясцовыя людзі. Калі не было тут яшчэ лесу, то ўніз, у бок распаложанай у даліне вёскі Суботка і Бельска-Падляшскага напэўна расцягваўся бязмежны далягляд. Невыпадкова менавіта там у час Першай сусветнай вайны гэты важны стратэгічна-абаронны пункт заняла нямецкая армія і пабудавала салідныя, драўляныя ўмацаванні. Некаторыя зубаўскія старажылы назву гары выводзяць ад таго, што камандуючы войскамі быццам быў з нямецкіх князёў. Мусілі быць салідныя нямецкія збудаванні, калі пасля вайны з гэтых дылёў некаторыя зубаўцы, вярнуўшыся з бежанства, пабудавалі сабе дамы.

Па-мойму, назва Княжая гара намнога старэйшая і вядзе свой пачатак з часоў сярэднявечча. У Бельску маем Замкавую гару, у Суражы таксама ўзвышаецца гара і ў недалёкіх Гацьках узвышаецца ўзвышша, але, відаць, ніводная з іх не княжыла так сваёй вышынёй над суседкамі. Памятайма, што ў сярэднявеччы людзі былі значна ніжэйшага росту і мелі зусім іншую шкалу ацэнкі вышыні. Калі ўзяць простую як стол раўніну Падляшскай зямлі, кожная ўзвышанасць авансавала часта да рангу гары. Менавіта тут, у зубаўскай геаграфічнай прасторы, паводле народных паданняў усё яшчэ распавяданых вяскоўцамі, якую я выслухаў з вуснаў 82-гадовага Пятра Карпюка, прайшла бітва паміж татарамі і крыжакамі. А мо гэта былі яцвягі? Ці, мабыць, гэта зусім іншая, пазнейшая ваенная сутычка, напрыклад, з часоў шведскага патопу 17-га стагоддзя? У недалёких наўпрост праз раку Нарву Канюках, у багністай зараз сажалцы (калісьці пэўна быў гэта прыток ракі), на дне знаходзіцца і зараз шведская гармата, якая патанула ў час пераправы. Відавочцы заракаюцца, што не так даўно стараліся яе вырваць з багна нават спецыяльна выкліканым кранам, але так ім і не пашанцавала. Гэтую гісторыю пачуў я ад сур'ёзнага чалавека, але не паспеў яшчэ яе пацвердзіць у другіх крыніцах. Тым не менш калі ў нашай сялянскай ландшафтнасці зусім неспадзявана гаспадарыць назва Княжай гары — дык гэта не выпадковасць, але скрываныя стагоддзямі таямніцы мінуўшчыны.

## Таямніцы і праклёны разбураных могілак

Факт, аднак, бясспрэчны, што зараз за сённяшнімі вясковымі панадворкамі знаходзіцца месца называнае Могілкамі, дзе спачываюць менавіта загінуўшыя ў невядомай бітве. Распаложаны яны з таго ж самага боку, што і гара, у амаль кіламетровай адлегласці ад яе. Яшчэ сёння відаць на вышыні клуні Міхала Лісоўскага, зараз рэктара Вышэйшай менеджарскай школы ў Беластоку, пэўнае ўзвышша, характэрнае для даўніх пахаванняў. За часоў ягонага дзяцінства, як сам распавядае, ніхто з дарослых сялян гэтага месца не чапаў, хаця ўжо тады не было там аніякіх крыжоў. Проста пасвіліся там толькі гусі і качкі. Самі сяляне дазвалялі сабе толькі выкапаць яміну для бульбы. А чалавечыя чарапы і косці самі выходзілі з зямлі. Быццам тыя камяні, што ўвесь час вырастаюць на полі, хаця стараешся іх выбраць. Але ніхто яшчэ не наважыўся ўзяць каня і плуг, каб атрымаць сялянскае задавальненне — глядзець як ад сашніка адкладаюцца роўныя скібы развернутай зямлі. У гэтым выпадку добрай, тоўстай зямлі. Зараз гэта поўнасцю пасяўное поле разаранае трактарамі, на якое вывозяць гной і з якога збіраюць ураджай. Страх перад Судом Божым адчуваецца толькі ў мудрых галасах зубаўскіх векавых людзей. Разбурыць і апаганіць любыя могілкі — грэх вельмі цяжкі. Разбураны вечны спакой пахаваных можа нанесці на мясцовых нейкі праклён і пакаранне. І што сказаць Усявышняму, калі ўжо будуць судзіць?

Атака на могілкі і іх разбурэнне прыйшло з боку сваёй, народнай, гмінай улады. Вырашыла яна гэтай зямлёй разам з расчлянёнымі шкілетамі адрамантаваць палявую дарогу, што перад самым Зубавам, едучы з Кназазоў, паварочвае ўлева. У бок калёніі пакойнага Кірылы Федарука. Ён не мог сцярпець такіх здзекаў над памерлымі. Пастараўся сабраць раскінутыя косці ў мяшок і назад закапаць іх на папярэднім месцы. Ягоны сусед Фларыян Карпюк пісаў лісты ў гміну з просьбай, каб дазволілі яму абгарадзіць гістарычны могільнік. Безвынікова. Не дазволілі. Таксама і на рамантаваную ў пачатку 1950-х гадоў гравійную дарогу з Пасынак у Плёскі завозілі зямлю са старадаўніх пахаванняў. Людзей абавязалі адбываць шарваркі і не было як выкруціцца. Гэтай жа пасынскай дарогай, а зараз шашой, вярталіся мы вечарам назад у Беласток. Неспадзявана пачуў я гісторыю, якая ўсур'ёз, але і ўскосна гаворыць пра праклён разбуранага месца. Менавіта на гэтай шашы некалькі гадоў таму назад правалі ўся раптоўна селянін на трактары, які быццам раней ганяў баброў са свайго лугу ў гэтай ваколіцы. На дапамогу трэба было выклікаць спецыяльную машыну, бо перапалоханы да паўсмерці гаспадар самастойна не змог выбрацца з глыбокай праваліны.



У гару ўрэзваецца палотнішча кукурузнага поля

— Паглядзі, якую засаду зрабілі на яго бабры за парушаны ім іхні спакой. Падкапалі шашу, — распавядаў мне мой суразмоўца. А мне зараз узгадаліся ўсе дзіўныя і трагічныя здарэнні паміж Плёскамі і Пасын-

працяг ☞ 4





# З песні слова...

Цяпер хіба што ўсе, нават завершаныя скептыкі, канчаткова ўцямілі, што спорт гэта вялікая сіла. Пасля таго як сацыяльныя сеткі літаральна ўзарваліся пастамі пра футбольны матч паміж зборнымі Беларусі і Украіны, у гэтым не засталося аніякіх сумненняў. Хоць наўрад ці яшчэ якая іншая спартыўная падзея ўзбудзіла б такую цікавасць да сябе. Нават пампезнае адкрыццё сочынскай алімпіяды і яе не менш скандальнае правядзенне не выклікалі такога ажыятажу. Але не сама гульня стала падзеяй нумар адзін. Шматмільённую аўдыторыю сацыяльных сетак узбударажыла не тое, што рабілася на гульнявым полі, а тое, што адбывалася на трыбунах. А там беларускія і ўкраінскія футбольныя фанаты разам скандавалі лозунгі „Слава Украіне!" і „Жыве Беларусь!", разам спявалі знакаміты гіт „Воіны святла" гурту „Ляпіс Трубяцкі", і не менш знакамітую песню адрасаваную кіраўніку Расійскай Федэрацыі.

Фанаты не біліся, як гэта звычайна бывае, а браталіся. Хоць, калі меркаваць па колькасці затрыманых футбольных заўзятараў супрацоўнікамі міліцыі, у гэта верыцца цяжанька. Здавалася б, калі людзі не таўкуць адзін другога па мардасах, а шчыра абдымаюцца і па-братэрску цешацца сустрэчай, іх затрымліваць няма за што. Але знайшлі. Форма абвінавачвання да зубнога болю нудная, зацёртая і традыцыйная для беларускай рэальнасці. За што яшчэ затрымліваць людзей, якія нічога кепскага не робяць, як не за нецэнзурную лаянку. У нас і нямога могуць за гэта затрымаць. Але гэтым разам, калі пакласці руку на сэрца і быць да канца шчырым, то сілавікоў сапраўды нельга звінавачваць у падтасоўцы фактаў і хлусні. Была нецэнзурная лаянка, акурат у тым самым знакамітым гіце пра расійскага кіраўніка. І міліцыя, і суды маглі б больш мякка паставіцца да гэтага факту. Усе ж ведаюць старадаўнюю мудрасць, што з песні слова то не выкінеш.

У суды завалаклі ўсіх без разбору. І ўкраінцаў, і беларусаў. Каго пакаралі штрафам, каго суткамі, чым яшчэ больш узмацнілі і так беспрэцэдэнтную актыўнасць сацыяльных сетак на гэтую тэму. Не ведаю, якую сілавікі ставілі мэту перад сабой, але вынік стаў такі, што калі хто і не ведаў слоў той няскладанай песенькі на памяць, то зараз дакладна вывучыў. Як і гіт „Ляпісаў". Ну а гучнымі лозунгамі „Слава Украіне!" і „Жыве Беларусь!" зараз не толькі пачынаюцца пасты ў сецівe, але і вусная гаворка на вуліцы.

Да гэтага матча праўдападобна рыхталіся даўно і ўсе. І не толькі сілавікі, якія і не ўсіх ахвотных украінцаў пусцілі ў Беларусь, і чые дзеянні ў дзень матча, скажам мякка, не паспрыялі той атмасферы сяброўства, братэрства і еднасці паміж украінскімі і беларускімі фанатамі. Хоць апошнія ўсё адно змаглі даказаць, што ўкраінцы і беларусы па-сапраўднаму лічаць адзін другога братамі і гатовыя пры патрэбе падтрымаць суседзяў у цяжкую хвіліну чым могуць. Рыхтаваліся да сустрэчы і самі заўзятары футбола. Беларускія падрыхтавалі бел-чырвона-белыя і жоўта-блакітныя стужкі пераплеценыя паміж сабой. Украінцы, як знак памяці і ўдзячнасці беларусам, прывезлі вялікі партрэт Міхаіла Жызнеўскага, беларуса, што ўвайшоў у Нябесную сотню, аддаўшы сваё жыццё на Майдане за свабоду Украіны...

Майдан тады не толькі выстаяў, але і перамог. На вялікі жаль кроў ва Украіне не перастала ліцца. І ніхто не ў стане нават спрагназаваць што там будзе далей. Мінскія мірныя дамоўленасці хоць і не да канца парушаюцца, але ж усё адно вісяць на валаску. Правакатары распаўсюджваюць сярод некаторых колаў насельніцтва думку, што няма чаканых вынікаў Майдана.

Але вынікі ёсць. Ужо ёсць. І нават футбольны матч гэта пацвердзіў. Сам прэзідэнт Украіны Пятро Парашэнка зацікавіўся лёсам затрыманых украінскіх фанатаў і аддаў МЗСу загад рабіць усё дзеля хутчэйшага вызвалення затрыманых у Беларусі грамадзян Украіны. Пасол Украіны паехаў гэтым займацца яшчэ да прэзідэнцкага загаду. Лёсам жа затрыманых беларускіх аматараў футбола з высокапастаўленых дзяржаўных мужоў Беларусі не зацікавіўся ніхто. І тут таксама, як гаворыцца, з песні слоў не выкінеш.

Віктар САЗОНАЎ

# Эбола: такое мыла!



Увага, надыходзіць Эбола! Не першая і не апошняя гэта эпідэмія. Ці можа істэрыя. Нагадаю тыя нескалькігадовай даўнасці. Менавіта тады міністр аховы здароўя Ева Копач стала вядомай непахіснасцю перад набыццём дарагой вакцыны супраць птушынага грыпу. Больш ці менш гэта датычыла некалькіх соцень мільёнаў еўра, якія прыйшлося б выдаткаваць, каб грамадзяне Рэчы Паспалітай адчулі сябе бяспечна. Прынамсі, так абвясцілі СМІ. Грып прайшоў бокам і такім чынам увайшоў у гісторыю медыйнай істэрыі. Мабыць таму, што абышлося без ахвяр (не лічачы некалькіх выпадкаў), Ева Копач стала цяпер прэм'ер-міністрам. Эпідэміялагічных пагроз, аднак, нельга недаацэньваць. Хвала міністру Арлуковічу, што не паддаецца, ішоўшы за мадэллю сённяшняй пані прэм'ер, медыйнай істэрыі. Хто ведае, мабыць дзякуючы гэтаму будзе за некалькі гадоў прызначаны на пасаду прэм'ер-міністра. Пакуль што ўсе тэлеканалы, газеты і часопісы барабаняць пра Эболу. Гэтае захворванне ўжо забіла каля чатырох тысяч чалавек. У Афрыцы. Толькі што калі некалькі месяцаў таму эпідэмія пачала церабіць тамашнюю бядоту, заходні свет, што добра памятаю, замест энергічна падтрымаць бедную, стаячую на прымітыўным медыцынскім узроўні ахову здароўя ў Гвінеі, адкуль эпідэмія распаўсюдзілася ў суседнія краіны, Сьера-Леонэ, Ліберыю і Нігерыю, склікалі міжнародныя нарады, кансультацыі... У канцы перадалі афрыканскім краінам, якім пагражае эпідэмія, некалькі мільёнаў долараў. Акрамя таго, амерыканцы паслалі тузін лекараў, ААН стольскі ж кансультантаў. Ну, і ўсё правалілася. Як звычайна заходні свет аказаў занадта позна і занадта малую дапамогу.

Гісторыя істэрыі любіць паўтарацца, што не абазначае, што... заўсёды без ахвяр. Нядаўні публічны скандал паміж міністрам Арлуковічам і краёвым кансультантам у галіне інфекцыйных хвароб праф. Горбанам паказвае, што ніхто ўжо больш не верыць у яе ўнікальнасць. Калі Арлуковіч сцвярджае праз сродкі масавай інфармацыі, што Польшча гатова адбіць інфекцыйны наступ, кансультант (таксама праз СМІ) гэта адмаўляе. Паводле яго польскія дактары не гатовыя ў ментальным і прафесійным плане на сустрэчу з інфекцыйнай пандэміяй, бальніцы не распрацавалі медыцынскіх працэдур і, што яшчэ горш, не маюць адпаведных ахоўных сродкаў. Міністр Арлуковіч рэзка яго заяву аспрэчвае. Праз СМІ. Нават абвясціў у мінулую пятніцу, што ўжо дзесяць бальнічных цэнтраў у поўнай медыцынскай гатоўнасці прыняць хворых інфіцыраваных вірусам Эбола. А істэрыя і тыражы газет растуць.

Эбола Эболай, але так ці інакш, ніхто не кажа, што ў сувязі з хуткім павелічэннем колькасці людзей, якія пакутуюць ад дыябету 2-га тыпу, Сусветная арганізацыя аховы здароўя ў 2006 годзе прызнала яго першай глабальнай неінфекцыйнай эпідэміяй. Варта згадаць, што толькі ў 2013 годзе лячэнне ад дыябету абыдзецца польскай дзяржаве ў 7 мільярдаў польскіх злотых. У гэтым лічбу знаходзяцца прамыя плацяжы, звязаныя з фінансаваннем медыцынскіх паслуг і пакрыццё кошту лякарстваў і ўскосных выдаткаў, звязаных, у прыватнасці, са стратай прадукцыйнасці пацыентаў з-за адсутнасці на працы, заўчаснай смерці, з пенсіямі ў кошт няздольнасці працаваць.

Пакуль што мы ў істэрыях з-за Эболы. І чаму б не ўпадаць у істэрыку ў сувязі з адсутнасцю гігіены сярод медыцынскага персаналу? Падлічана, што ў Польшчы кожны год прытрапляецца каля 37 тысяч г.зв. зраненняў, звязаных з выкарыстаннем медыцынскага абсталявання медработнікамі. Большасць з-за няўважлівасці або халатнасці пры гігіенічных працэдурах. Успомнім, што медыцынскі персанал знаходзіцца ў кантакце з біялагічным матэрыялам, які можа ўяўляць сабой рызыку інфекцыі, а гэта сур'ёзная праблема. Як пацвярджаюць шматлікія інспекцыі санэпідэмстанцый і нават Найвышэйшай кантрольнай палаты, у польскіх медыцынскіх установах лекары і медсёстры не захоўваюць асноўнай гігіены — мыцця рук. Гэта толькі адна праблема — чалавек. Але ёсць жахлівы недахоп у інвеставанасці аховы здароўя. Не можа яна дазволіць (кажуць) на асептычнае мыла. А калісьці ўрачы мылі рукі шэрым мылам. Ну і асноўная праблема: міністр аховы здароўя не ведае, хто вырабляе ў Польшчы такое мыла.

Міраслаў ГРЫКА



Вачыма еўрапейца

# Новы мігістр замежных спраў

Сюрпрызам — асабліва медыйным — стала прызначэнне ва ўрадзе прэм'ер-міністр Евы Копач на пасаду міністра замежных спраў Гжэгажа Схетыны. Ён бачыўся і сам таго не хаваў, што канкуруе за ўплыў у Грамадзянскай платформе з Дональдам Тускам. Гэта не сакрэт, што «яго чалавекам» у партыі з'яўляецца лідар падляшскіх структур ГП Роберт Тышкевіч, дасюль віцэ-старшыня, а цяпер старшыня парламенцкай камісіі па замежных справах, значыць, кіруючы гэтай камісіяй разам з яе цяперашнім старшынёй — якраз Гжэгажам Схетынам. Новы міністр замежных спраў, і раней (з ліпеня 2010 года па лістапад 2011 года, гэта значыць, да канца папярэдняга тэрміну парламента) маршалак Сейма, гісторык па адукацыі, народжаны ў Аполі, не раз браў голас у справе Беларусі.

У лютым 2011 г., калі Сейм на падставе аднагалоснай ухвалы прыняў рэзалюцыю, асуджаючую рэжым Аляксандра Лукашэнкі за гвалт і рэпрэсіі супраць сваіх суайчыннікаў пасля снежаньскіх выбараў у папярэднім годзе, і ў прысутнасці ў Сейме беларускай апазіцыі. «Будзем нагадваць і памятаць аб вашай справе, — запэўніў беларускіх апазіцыянераў у Сейме. — Мы хочам, каб вы памяталі, што зараз за вашай мяжой пачынаецца іншы свет, які не застанецца абыякавым да вашага лёсу. Мы карыстаемся грамадзянскай свабодай больш за 20 гадоў, але яшчэ памятаем як нам цяжка было яе атрымаць і што гэта патрабуе мужнасці. Мы, палякі, памятаем, колькі трэба прысвяціць сябе, каб зламаць крывадушнасць дыктатуры, маніпуляцыю таталітарнай улады і інерцыю падманутай грамадскасці. Мы ведаем вагу гісторыі, цану дружбы і важнасць свабоды слова. Вось чаму мы хочам афіцыйна асудзіць гвалт рэжыму Аляксандра Лукашэнкі і палітычныя рэпрэсіі, і ў той жа час выказаць падтрымку ўсім грамадзянскім ініцыятывам у Беларусі».

Цяперашні міністр замежных спраў звяртаў тады ўвагу дэпутатам, што «аддаючы голас за рэзалюцыяй у падтрымку грамадзянскай супольнасці ў Беларусі, варта нагадаць, што гэта салідарнасць увяла Польшчу ў Еўропу і гэтая салідарнасць стала гарантыяй нашай незалежнасці. Сёння мы можам аказаць яе зноў, па-над межамі».

Ён нагадаў, што правы чалавека з'яўляюцца неад'емнымі: «Можна іх парушаць, але нельга іх нікому адняць. Нават у краіне, дзе няма правасуддзя, дзе страх замяняе свабоду выбару і незалежныя журналісты трапляюць у турмы».

Звярнуўся да беларускіх апазіцыянераў: «Мы верым, што незалежнасць і самавызначэнне, дзякуючы вашай рашучасці і мужнасці, будзе натуральным вопытам вашых дзяцей. Мы хочам, каб вы памяталі, што за вашай мяжой пачынаецца іншы свет, які не застанецца абыякавым да вашага лёсу».

У жніўні 2011 года, пасля арышту Алеся Бяляцкага, пасля таго, як даныя аб яго рахунку выдалі Беларусі Польшча і Літва, адзначыў: «Мы хочам сказаць вельмі выразна, што мы сёння з беларусамі, з тымі ўсімі, што апынуліся ў турме. Мы ўсе адчуваем сябе вінаватымі, усе мы схіляем галовы нізка і абвяшчаем падтрымку, салідарнасць і дапамогу».

Тады дэклараваў адначасова, што ў будучыні ўсе польскія службы ў вельмі асцярожны спосаб будуць рэагаваць на чаканні беларускага боку: «Гэты выпадак з'яўляецца нашай агульнай праблемай, нашай калектыўнай ганьбай. Мы павінны зрабіць усё, каб пазбегнуць паўтарэння ў будучыні такіх выпадкаў».

Узімку 2012 года быў рашучым прыхільнікам санкцый супраць Беларусі пасля таго як у адказ на санкцыі ЕС Аляксандр Лукашэнка загадаў паслам Польшчы і іншых краін ЕС, каб з'ехалі ў свае сталіцы для кансультацый. Ён быў упэўнены: «Ідэя заключаецца ў тым, каб увесці жорсткія санкцыі супраць рэжыму Лукашэнкі і адначасна не ўпіхваць Мінска ў расійскія рукі». Ён заявіў, што беларускія ўлады павінны ведаць, што абмежаванні ў любы час могуць быць прадоўжаны, або быць змякчаныя: «ЕС павінен паказаць шлях да сябе. Але каб беларусы маглі ўвайсці на яго, павінны прытрымлівацца нашых стандартаў». Выказаў надзею, што Мінск будзе мяняць палітыку пад уплывам дзеянняў краін ЕС: «Калі мы будзем паслядоўнымі, яны, нарэшце, могуць адумацца».

Як старшыня парламенцкай камісіі па замежных справах (з лістапада 2011 года), перад нядаўнім чэмпіянатам па хакеі выступіў супраць арганізацыі яго ў Беларусі (канчаткова, адбыўся ён у траўні): «Гэта павінна быць нашай ініцыятывай. Польшча павінна весці акцыю за адняцце чэмпіянату па хакеі Лукашэнку». Дадаваў: «Гэта гульня. А ў турмах сядзяць людзі, якіх Аляксандр Лукашэнка трактуе такім чынам, як у ніякай краіне ў Еўропе».

Сачыўшы за заявамі Гжэгажа Схетыны пра Беларусь у апошнія гады, можна з упэўненасцю сказаць: пытанні аб Беларусі яму не чужыя. Як ягоныя ранейшыя погляды ў гэтых адносінах перакладуцца на курс польскай палітыкі ў дачыненні да гэтай краіны, прыйдзецца гэтага пачакаць, тым больш, што на яе таксама аказваюць уплыў вынікі расійска-украінскага канфлікту.

Мацей ХАЛАДОЎСКІ

# Майстэрня мастацкіх тэхнік у Гайнаўскім белмузеі



**У Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы ад пяці гадоў дзейнічае Майстэрня мастацкіх тэхнік. Спачатку два гады вёў яе гайнаўскі мастак Віктар Кабац, выпускнік Аддзялення выяўленчага мастацтва Універсітэта ў Торуні, а ўжо трэці год удзельнікі майстэрні займаюцца пад кірункам намнога малодшага гайнаўскага мастака Данеля Грамацкага, выпускніка Гуманітарнага і Мастацкага аддзяленняў Універсітэта ў Любліне і Люблінскай школы мастацтва і дызайну. Дзеткі, моладзь і перш за ўсё дарослыя асобы ў вольны час вучацца маляваць, рысаваць, знаёмяцца з мастацкімі тэхнікамі. Узровень выконваных у майстэрні прац розны, але некаторыя мастакі-аматары нават перамагалі на аглядах непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі. 3 кастрычніка ў галерэі «Гайна» Гайнаўскага белмузея адбылося адкрыццё вялікай выставы прац, выкананых удзельнікамі майстэрні ў 2013 годзе. Сёлетні плён працы майстэрні будзе можна ўбачыць толькі ў наступным годзе.**

— Кожны асяродак культуры хацеў бы мець майстэрню, дзе пад наглядам прафесіянала можна было б вучыць маляванню і рысаванню. Паколькі ў назве нашага музея ёсць словы «асяродак беларускай культуры», мы стараемся выконваць задачы такога асяродка. Робім стаўку не толькі на развіццё і прэзентацыю беларускай музыкі, але таксама стараемся дзейнічаць у мастацкай сферы. Праз Майстэрню мастацкіх тэхнік на працягу пяці гадоў прайшло ўжо каля сарака чалавек. На выставе прэзентуюцца звыш ста прац 21 удзельніка майстэрні. Былі яны выбраны з ліку прыблізна двухсот работ, якія паўсталі пад наглядам Данеля Грамацкага толькі ў 2013 годзе. У гэтым часе ўдзельнікі майстэрні выконвалі пастэлі, акварэлі, рысункі і работы зробленыя мяшанымі тэхнікамі. Відаць, што аматары выяўленчага мастацтва разгортваюць свае здольнасці і вучацца штораз новым мастацкім тэхнікам. На заняткі да нас часта прыходзяць асобы, якіх цікавіць мастацтва, якія раней паспрабавалі рысаваць або маляваць і хочуць вучыцца пад кірункам прафесійнага мастака Данеля Грамацкага, — сказаў дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк, які разам з Данелем Грамацкім адкрылі выставу.

— Заняткі ў Майстэрні мастацкіх тэхнік запланаваныя на 6 гадоў сустрэч. Спачатку мы вучыліся падставам малявання і рысавання. У мінулым годзе ўдзельнікі майстэрні вучыліся, між іншым, экспрэсіі ў мастацтве, працаваць з колерамі, састаўляць кампазіцыі. Каб, напрыклад, умець састаўляць розныя адценні блакітнага ці чырвонага колераў, гэтаму таксама трэба навучыцца. У гэтым годзе мы больш будзем вучыцца тэхнікам малявання і рысавання, што павінна павысіць узровень мастацкіх работ, — сказаў Данель Грамацкі.

На заняткі прыходзяць асобы ў розным узросце і з рознымі здольнасцямі. Данель Грамацкі дапамагае паасобным удзельнікам майстэрні. Узровень мастацкіх прац, прэзентаваных на адкрытай у музеі выставе — розны. На музейнае мерапрыемства прыбылі настаўнікі беларускай мовы Гайнаўскага белліцэя: былы — Васіль Сакоўскі (актыўны дзеяч Гайнаўскага белмузея) і цяперашні — Янка Карчэўскі (віцэ-старшыня ўправы аб'яднання «Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы»), а таксама іншы віцэ-старшыня музейнага аб'яднання Аляксандр Харкевіч. Становіча ацанілі яны прэзентаваныя на выставе працы. Гайнаўскі мастак і настаўнік Комплексу школ № 2 у Гайнаўцы Збігнеў Будзынскі, які раней узначальваў працу конкурснай камісіі агляду непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі, пахваліў удзельнікаў музейнай майстэрні за рост узроўню мастацкіх работ у параўнанні з працамі з папярэдняй выставы.

— Відаць здольнасці і рост мастацкага ўзроўню ў Міраслава Хіліманюка — пераможцы аглядаў непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі (у 2012 годзе заняў I месца, а ў 2013 годзе апынуўся на III месцы ў катэгорыі жывапісу — А. М.). Ён удала запрэзентаваўся на нашым аглядзе як самавук. Зараз вучыцца выпраўляць хібы, якіх не заўважаў раней. Калі Тамара Кердалевіч прыносіла першыя працы на конкурс, іх узровень не быў высокі, а зараз яе работы, асабліва батык, гэта мастацтва на салідным узроўні. На выставе ёсць таксама іншыя работы на прыстойным узроўні і добра, што ў іх аўтараў ёсць магчымасць вучыцца маляванню і рысаванню, — сказаў Збігнеў Будзынскі.

Інструктар мастацтва Гайнаўскага дома культуры Зінаіда Якуць таксама пахваліла ўзровень мастацтва, якое ствараецца ў музейнай майстэрні. На выставе многа нацюрмортаў. На іншых працах відаць цікавыя краявіды і расліннасць. Данель Грамацкі ўдакладніў, што даваў рысаваць і маляваць кампазіцыі з нацюрмортамі ў першым этапе дзейнасці майстэрні, калі яе ўдзельнікі вучыліся практычным падставам мастацтва. Зараз часцей будуць выконвацца работы з прыродай, бо партрэты патрабуюць асобнай увагі. Данель Грамацкі праціўнік малявання ці рысавання са здымкаў і таму ладзіць мастацкія пленэры на Гайнаўшчыне, прымае ўдзел у агульнапольскіх пленэрах.

— Козыр майстэрні — удзел асоб у розным узросце. Калі глядзім на працу дзевяцігадовага дзіцяці, а побач яе красуецца работа пяцідзесяцігадовага ўдзельніка майстэрні, гэта радуе, бо ў майстэрні ёсць магчымасць абмену вопытам паміж дарослымі, моладдзю і дзеткамі, — гаварыла Зінаіда Якуць.

— Я стаў маляваць некалькі гадоў таму назад. Перамогі ў конкурсе непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі падштурхнулі мяне, каб больш вольнага часу прысвяціць мастацтву, якое стала маім хобі. На занятках у майстэрні, на якіх я прысутнічаю ўжо трэці год, я многаму навучыўся і зараз інакш гляджу на мой варштат працы і мастацтва, чым перад абучэннем у музеі. Удасканаліў я тэхніку малявання, навучыўся правільна падбіраць колеры і больш ведаю, як правільна па-мастацку адлюстраваць акружаючы нас свет. Ведаю таксама больш як правільна нарысаваць і намаляваць дэталі, — сказаў гайнавянін Міраслаў Хіліманюк. — Я стараюся прыходзіць на заняткі пастаянна, бо гэта важна, каб навучыцца правільна маляваць. Але часам службовыя выезды не дазваляюць рэалізаваць гэтую задуму.



Адкрылі выставу дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк і мастак Данель Грамацкі (справа)

На мастацкія заняткі ў белмузей прыязджае таксама былы наш карэспандэнт і фатограф-аматар Славамір Кулік.

— У мастацкіх занятках у музеі я ўдзельнічаю ўжо трэці год і многаму тут навучыўся. У мінулым я свае мастацкія працы дасылаў на конкурс непрафесійнага мастацтва, але не трапілі яны на выставу. Калі я цяпер авалодаў падставамі рысавання і малявання, можа паспрабую яшчэ раз прыступіць да конкурсу. Зараз малюю для ўласнага задавальнення. Калі было ў мяне больш вольнага часу, я прымаў удзел таксама ў мастацкіх занятках у Гайнаўскім доме культуры, — расказаў Славамір Кулік.

— Маляванню і рысаванню нельга навучыцца з кніжак або гледзячы толькі на іншыя карціны. Падчас заняткаў у майстэрні ёсць магчымасць пазнаёміцца з асновамі варштату працы мастака і паступова павышаць свае ўмеласці. Я тэарэтычна вучылася мастацтву падчас навукі на спецыяльнасці гісторыя мастацтва на ўніверсітэце ў Вроцлаве. Але заняткі ў майстэрні мне неабходныя, каб прымяніць веды на практыцы, пачаць лепш маляваць і рысаваць. Найбольш падабаюцца мне працы выкананыя вугалем, крэйдай, акварэллю, — сказала Агнешка Ціханюк з Гайнаўскага белмузея.

Агнешка Ціханюк у белмузеі адказная, між іншым, за мастацкую дзейнасць сваёй установы. Разам з Данелем Грамацкім займалася арганізацыяй выставы прац удзельнікаў майстэрні і з радасцю расказала пра асаблівыя мастацкія здольнасці некаторых асоб, якія займаюцца ў белмузеі.

— Каб дабіцца поспехаў у галіне мастацтва, неабходны талент, але без адукацыі, пад наглядам вопытнага мастака і доўгай працы з пэндзлем у руках, немагчыма гэта рэалізаваць. Данель Грамацкі многаму ўжо нас навучыў, але патрэбныя нам яшчэ даўжэйшая трэніроўка і здабыванне чарговага мастацкага вопыту, звяртаючы ўвагу на штораз новыя дэталі, — заявіла Агнешка Ціханюк.

— Я займаюся ў майстэрні другі год і бачу, што малюю і рысую лепш, чым раней. Апрача вучобы пад наглядам нашага інструктара ёсць магчымасць здабываць індывідуальны вопыт, гледзячы на працу іншых удзельнікаў майстэрні, — сказаў Яраслаў Гацкевіч.

— Гэта Тамара Кердалевіч з Чаромхі ўгаварыла мяне прыязджаць на заняткі. У майстэрні добрая і сяброўская атмасфера. Мы прыемна і карысна праводзім час. Калі ў мяне паявілася больш вольнага часу, я рашылася павучыцца маляванню і рысаванню, што раблю з задавальненнем, — сказала Ірэна Лагвінюк з Чаромхі.

Дзейнасць Майстэрні мастацкіх тэхнік і арганізацыя выставы былі прафінансаваны Управай горада Гайнаўкі і Маршалкоўскай управай Падляшскага ваяводства ў рамках праекта «Прыгранічны этнічны альянс». Дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк напомніў сабраным, што ў рамках гэтага праекта вядзецца супрацоўніцтва з Беларуссю ў розных галінах.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## Ліст у рэдакцыю

**Галоўны рэдактар тыднёвіка „Ніва” Яўген Вапа**

У сувязі з выяўленым мною 6 кастрычніка 2014 г. плагіяце на старонках „Нівы” майго тэксту пра Кастуся Каліноўскага ў свядомасці беларусаў у Польшчы, прачытанага на канферэнцыі ў 2014 г. у Гарадку (прысвечанай студзеньскаму паўстанню), якога фрагменты выкарыстала Міраслава Кастанчук у тэксце „Кастусёў дом” („Ніва”, н-р 40, 5.10.2014 г. с. 5), хачу заявіць, што з'яўляецца гэта парушэннем аўтарскага права.

Як аказалася, мой тэкст Міраслава Лукша атрымала да карэктуры ў пасляканферэнцыйны зборнік ад Юркі Хмялеўскага і не мела права карыстацца ім у іншы спосаб. У сувязі з вывразным парушэннем аўтарскага права прашу прыпыніць далейшую публікацыю і пасніць чытачам усю сітуацыю і перапрасіць мяне за выкарыстанне майго тэксту (яшчэ неапублікаванага) без маёй згоды.

**Лена ГЛАГОЎСКАЯ**

**Шаноўная Лена Глагоўская!**

У адказе на Ваш ліст у „Ніву” прашу прабачэння, што я не спаслалася на Ваш навуковы тэкст, яшчэ нідзе непублікаваны (прызначаны ён да публікацыі ў пасляканферэнцыйным зборніку на тэму студзеньскага паўстання; які мне прыйшлося рэдагаваць), змяшчаючы Вашы развагі і пошукі на тэму Кастуся Каліноўскага ва ўспрыняцці беларусаў, у якім Вы выкарысталі цытаты з публіцыстычных і іншых тэкстаў публікаваных у „Ніве” і іншых беларускіх выданнях. Тэма ідэі і рэалізацыі ўвекавечання Кастуся Каліноўскага канчаткова ў выглядзе Дома культуры ў Гарадку цікавіла і турбавала мяне ад дзесяткаў гадоў, і сама я праводзіла пошукі, між іншым, бюста героя, які раней стаяў у Доме культуры ў Гарадку (дзе я працавала ў 1978-1979 гг.) і мемарыяльнай таблічкі. Была я прысутная пры Вашай руплівай шматмесячнай працы над зборам матэрыялаў з гадавікоў „Нівы” пра Кастуся Каліноўскага. Несумненна, адна з тэм, якую Вы, аўтарка навуковага тэксту „Konstanty Kalinowski (Kastuś Kalinoŭski) w świadomości Białorusinów w Polsce” кранаеце ў сваім артыкуле, мяне зацікавіла і я вырашыла яе выкарыстаць без Вашай згоды. Яшчэ раз прашу прабачэння ў Вас і ў Чытачоў.

**Міраслава ЛУКША**

## Яшчэ раз пра Васіля Юраўца

У нашым тыднёвіку „Ніва” за 21 верасня 2014 года быў апублікаваны мой артыкул пра аднаго з пачынальнікаў Таварыства беларускай школы (ТБШ) на Беласточчыне ў 1930-х гадах Васіля Юраўца.

Праглядаючы старыя выданні беластоцкіх „Беларускіх календароў”, трапіў на невялічкую зацемку „Сялянскі паэт” у „Беларускім календары” за 1968 год. Там на старонцы 30 паведамляецца, што пенсіянер Васіль Юравец жыве ў вёсцы Грыбаўцы Беластоцкага павета. Да пенсіі ён працаваў на чыгунцы. Усё сваё жыццё Васіль Юравец пісаў вершы. Але пасля Другой сусветнай вайны мала ці зусім не друкаваўся. А ўсе свае творы захоўваў у рукапісах. Цікава, а дзе цяпер гэтыя рукапісы? Альбо яны прапалі, альбо дзеці і ўнукі іх захоўваюць. Вядома, сялянскі паэт не быў вялікім паэтам, але вершы Васіля Юраўца з'яўляюцца хронікай ягонага жыцця і змагання за беларускія школы на Беласточчыне ў даваенны і пасляваенны час. Таму вершы Васіля Юраўца трэба шукаць і лепшыя надрукаваць.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# Мой горкі хлеб



Часам так думаю: за якія грахі я мучуся ў гэтым жыцці. Восем класаў пачатковай школы, чатыры класы белліцэя ды пяць гадоў вучобы на беларускай філалогіі. Вучыўся я добра, шмат прачытаў добрых кніг, пішу вершы ды песні, часам пішу ў «Ніву», а нашай праклятай дзяржаве напляваць на маю будучыню. Асабліва мне баліць не толькі мой лёс, але лёс майго пакалення — людзей, якія маюць пад трыццаць або за трыццаць гадоў жыцця. Скажу адно: гэтага, што я пішу, не зразумее той, хто сядзіць на цёплай пасадзе, здабытай не сваімі здольнасцямі, але знаёмствамі. Не зразумее гэтага той, які мае лёгкую працу, але зразумее просты, добры селянін з добрым сэрцам ды чыстай душою. Бо я сам з вёскі і змалку цяжка працаваў з бацькамі, а бацькі — шчырыя, добрыя людзі — мне паўтаралі: «Сынок, вучыся, бо на вёсцы не знойдзеш сваёй будучыні». І я вучыўся добра. Сябры гулялі ў футбол, ездзілі на забавы, а я цэлы час сядзеў у кнігах, бо ў гэтым бачыў светлую будучыню. Вучыўся добра, а становіцца прыкра, калі працуеш на дажджы, ветры, марозе, снезе, у прыніжэнні за марны грош таму, што хацелася ў горад. Часам прыкра, калі працуеш цяжка, а шэф не павышае зарплаты, толькі дае таму, хто на цябе даносіць, хаця штодзень да цябе ўсміхаецца. А ён смяецца з цябе, што ты, дурань, цяжка працуеш і нічога з гэтага не маеш. Такія шэфы ставяцца да цябе як да смецця. Ім напляваць на тваю вышэйшую адукацыю, на твае зацікаўленні і на тое, што ты добры, а нават надта добры на той праклятым капіталізм, дзе лічыцца хітрасць, нахабнасць ды прымітыўная хамскасць. Працуеш з хамамі ды маўчыш, бо прасты хам тваёго болю не зразумее. У яго свой свет, а ў цябе свой, пра які мусіш маўчаць. А грошы мусіш зарабляць. Колькі прыніжэння каштуе калі ідзеш па сваю зарплату, а шэф толькі ўрэзвае грошы, як бы ты дарэмна працаваў цэлы тыдзень. Ім напляваць на тое, што ты цяжка працаваў, да поту і слёз. Астаўляеш злодзея, ідзеш да другога. У новым карміцелі, які дае табе працу, бачыш анёла, а ён, аказваецца, такі сам злодзей як і папярэдні. Ён урэзвае зарплату табе, тваім сябрам па працы, а сам будуе дамы, купляе дзецям кватэры, новыя машыны. І то за твае грошы. А ты працуеш, бо не маеш іншага выхаду. Не прымуць цябе на працу ў школу, не прымуць у рэдакцыю радыё ды газеты, бо ўсюды сядзяць дзеці бацькоў, якія там працуюць. Гэта нічога, што яны слаба вучыліся, але яны маюць «плечы» і ім напляваць на твой талент, здольнасці ды магістарскі дыплом. А ты мучышся, шмат думаеш, наракаеш перад жонкай, а яна, бедная, цябе падтрымлівае, але што зробіш. Гэта ж Беласток — горад самых нізкіх зарплат і заробкаў у Польшчы. Ніякіх тут перспектыў для маладых людзей, якія ўцякаюць з Беластока ў Варшаву, Вроцлаў, Лондан, Брусель, Стакгольм, Берлін, Парыж... Во за што змагалася пакаленне нашых бацькоў 25 гадоў таму. Але не нашых бацькоў, простых, добрых сялян, але гэтых інтэлігенцкаў, што ўладкаваліся на добрыя пасады і ўладкавалі сваіх дзяцей. І гэта яны хваляць сучасную палітыку Польшчы. Часам так думаю: ці нашае пакаленне здольнае зрабіць рэвалюцыю? Маладыя робяць пратэсты, калі нехта хоча сачыць за прыватнымі данымі ў інтэрнэце, але не выйдуць на вуліцу патрабаваць працы. Большасць іх або баіцца выйсці, бо страціць працу, або думаюць, што гэта нічога не дасць. На прыкладзе Украіны бачна, што рэвалюцыя не вядзе да дабра, а да вайны, нацызму, падзелаў у грамадстве ды ўнутранай вайны. Творчыя людзі ў рэвалюцыі бачаць рамантычныя ідэі, але насамрэч атрымліваецца інакш. І так атрымалася ў Польшчы пасля 1989 года. Я заўжды сваім калегам з Беларусі ці Украіны паўтараю, каб вучыліся рабіць высновы з польскай трансфармацыі. Нібыта маем у крамах усё, але за гэта трэба дорага заплаціць, а каб заплаціць, трэба добра зарабіць. А дзе ты тут заробіш, калі няма працы, апрача цяжкай фізічнай работы, за якую плацяць табе марныя грошы. Часам думаеш кінуць той праклятая горад ды вярнуцца на вёску. Гаспадар, хаця цяжка працуе і мала з таго мае, але ён працуе сам на сябе. Ён сам сабе шэф і працаўнік, і пан свае зямлі, сам сабе вызначае рытм працы. Калісьці на сялянскім календары быў пабудаваны фальклор вёскі, а нават найбольшыя праваслаўныя святы здаўна дапасаваныя да пор года, да месяцаў і дзён. Калісьці ўсё было простае, а тадышнюю гармонію разбурыла сучасная глабалізацыя свету ды моцны прыток людзей з вёсак у гарады. Але гэта мяняецца. Вяртаюцца гарадскія ў вёску, але не дзеля цяжкай працы, толькі на адпачынак ад горада. Усе забываюць, што вёска стварыла горад, а не горад вёску. Трэба гэта сказаць сучасным дзяўчатам, якія ўсё ж любяць горад, бо там нібыта большыя перспектывы развіцця. Але за гэтыя перспектывы іх мужы мусяць плаціць горкую цану.

**Юрка БУЙНЮК**

1 ☞ працяг

# Княжае і панскае Зубава

камі, якія там неаднойчы мелі месца і напэўна бабры не мелі да іх аніякага дачынення.

Паводле расказаў людзей і з паліцыйных хронік вынікае, што шафёры на гэтай простай трасе раптам страчваюць панаванне над рулём і ідуць у адкос, або перакульваюцца ўверх коламі. Няма аніякіх выняткаў ці гэта маладыя, ці вопытныя шафёры; раптам усе пападаюць у смяротэльную небяспеку. На скрыжаванні гэтай дарогі з трасай Нарва — Бельск некалькі гадоў таму назад мела месца трагічнае смяротнае здарэнне з удзелам духоўных і грамадзян Украіны. Прыдарожны помнік на вышыні Пасынак — сведчанне трагедыі. Раптам узгадалася таксама неспадзявана гісторыя ўзлёту і трагічнага падзення роднага брата Міхала Лісоўскага — Аляксея, які застаўся гаспадарыць у Зубаве. Але гэта матэрыял на асобную гісторыю.

Калі я вярнуўся ў Беласток, таямнічасць ваярскага могільніка выявілася і ў маім фотаапараце. Без праблемаў усе ранейшыя і пазнейшыя здымкі з Зубава запісаліся на карце. Аднак зробленых на могільніку пяць ці шэсць фотак увогуле прапала. Выпадковасць, ці мая няўмеласць? А можа знак? Проста забарона фатаграфаваць месца так апаганенае людзьмі. Нейкі неспакой сапраўды адчуваецца там у паветры. Калі мае суразмоўцы запрапанавалі пад'ехаць яшчэ крыху далей на чарговыя, таямнічыя зубаўскія, так званыя «нячыстыя могілкі», я проста падзякаваў і папрасіў развярнуцца назад. У сядзібу майго галоўнага героя, дзеля размовы з якім завітаў я туды. Але, зразумела, даведаўся ў чым «нячыстасць» гэтага месца. Менавіта там праходзілі пахаванні неданошаных і абортных дзяцей, самагубцаў, забойцаў і ахвяр падобных страшных гісторый. Такія змрочныя гісторыі чалавечага роду скрывае таксама перад намі зубаўская ваколіца.

Думаю, што сёння варта ўсё ж такі Бельскай гміне супольна з настаяцелем прыхода ў Пасынках айцом Яўгенам Сушчам, вялікім прыхільнікам мясцовай беларускай спадчыны, ушанаваць належна прызабытыя ваярскі могільнік. А можа пры нагодзе ўдасца правесці археалагічныя раскопкі і хаця крыху раскрыць прыблізны час сакрэтаў зубаўскай мінуўшчыны. Трэба ж паставіць і сімвалічныя крыжы над разараными магіламі. Асабліва, што для энергічнай спадарыні войт Бельскай гміны Раісы Раецкай гэта ж знаёмыя мясціны з недалёкай яе малой Айчыны.

Трэба выпраўляць разам рашэнні і дзеянні такіх бязбожных і нечалавечых папярэднікаў.

### Паляцелі ў свет з Княжай гары

Княжая гара зараз значна зменшыла сваю вышыню. Проста яна абсела. Усё па прычыне таго, што пасля Другой сусветнай вайны дарожныя будаўнікі і навакольныя вёскі здабывалі там проста жвір. Доўгія і глыбокія ямы глядзяцца мне як парэзаныя на жывым целе шрамы, што ў болі зарастаюць зеллем, лесам і выкінутым смеццем. Неяк становіцца мне сумна і адчуваю сябе няёмка, што прыродная каштоўнасць нікім не ахоўваецца. Не разбамбілі гары снарады ў час войнаў, але зрабілі гэтае сялянскія рыдлёўкі і дзяржаўныя землечарпалкі. Зараз з аднаго боку ў гару ўрэзваецца палотнішча кукурузнага поля.

Гара, нягледзячы на зададзены ёй боль, аддзячыла мясцовым дабром, выпраменьваючы з сябе пазітыўную энергію для іхняй свабодалюбівай прасторы. Побач чароўнай гары знаходзіцца радавое гняздо таленавітага беларускага паэта Уладзіміра Данілюка, які нядаўна, на жаль, памёр у Варшаве. Праз дарогу ўніз знаходзіцца родная калёнія гарманійнай у сугучнасці з Божым і прыродным дыханнем паэтэсы Жэні Мартынюк і такой жа самай яе паэзіі. Калі зараз убралі камбайнамі высачэзную кукурузу, іхнія дамы па-даўняму паміж сабою бачацца.

Тут зімою, з'язджаючы з Княжай гары з шалёнай хуткасцю на санках ці лыжах, зубаўскія хлопцы і дзяўчаты выношвалі ў думках свае першыя, крылатыя мары вылету ў свет шырокі. І можа ваярскія легенды прошлага гэтай зямлі і добрая моц Княжай гары дапамагалі ім узлятаць далёка і высока. Таксама ў літаральным сэнсе. Зубавец, палкоўнік Дмітрук стаў лётчыкам-выпрабавальнікам рэактыўных самалётаў, выратоўваў сваё жыццё катапультаваўшыся тройчы. Другі — Андрэй Лісоўскі — вывучыўся на пілота верталётаў. Адной падзеяй праславіўся ён на ўсю ваколіцу і набыў аграмадную пашану ў сваіх аднапляменцаў. Выконваючы свае прафесійныя абавязкі ў паветры, пралятаў ён над зубаўскімі лугамі і палямі. Быў акурат час сенакосу. І пабачыў з вышыні лётчык Андрэй сваіх бацькоў на сенажаці. Нешта, відаць, сціснула сэрца і душу маладому вайскоўцу, які проста з неба прызямліўся побач сваіх бацькоў. Што яны думалі, калі пабачылі раптам верталёт, а потым сына побач сябе? Кожны можа пісаць розныя сцэнарыі. Большы доказ пашаны для свайх бацькоў цяжка ўявіць. Напэўна потым ягонае камандаванне па галоўцы за такі «подзвіг» не пагладзіла. Але тым учынкам запісаўся ў новыя, апавяданыя па сёння, легенды Зубава і ваколіц.

Другія маладзёны станавіліся не толькі вайскоўцамі, але і мытнікамі, міліцыянтамі, працаўнікамі службы бяспекі. Памятаю жарты маіх бельскіх сяброў, са студэнцкіх часоў у Варшаве, калі назву вёскі на дарожных слупах прапанавалі яны запісваць па-польску ў наступным варыянце: **Z UBowo**. Як гавораць людзі, у кожным жарце заўсёды скрываецца доля праўды. Для незарыентаваных: у час гэтак званай камуны УБ — гэта польская палітычная спецслужба. Іншых прывабілава цывільная навука і асвета. Недалёкі Бельскі беларускі ліцэй прыцягваў сваёй тутэйшасцю. Завітаў да яго як дырэктар... таксама зубавец Аляксей Карпюк і застаўся моцнай рукой княжыць у ім на дваццаць (1971-1991) гадоў.

Аднак моц Княжай гары перадавалася перш за ўсё мясцовым сялянам, для якіх усімі гістарычнымі выпрабаваннямі паасобных сем'яў, што мусілі прайсці на працягу аднаго пакалення, можна абдзяліць некалькі мірных пакаленняў. Пра гісторыю такой адной зубаўскай сям'і ў наступным нумары.

**Тэкст і фота Яўгена ВАПЫ**

# Як зразумець Расію?

**На расійска-ўкраінскім канфлікце пакуль што перамагае кіраўнік... Беларусі — Аляксандр Лукашэнка, — лічыць Вацлаў Радзівановіч. Шматгадовы карэспандэнт штодзёнкі „Gazeta Wyborcza” ў Расіі ўпэўнены, што гэты канфлікт падзяліў брацкія народы, мабыць, назаўсёды.**



фота www.facebook.com


фота Ганны КАНДРАЦЮК

**— Лічаць вас экспертам па расійскай палітыцы, але таксама знатаком рускай душы. Што, паводле Вас, ведаюць пра яе палякі?**

— Я стараюся вывучаць Расію і спазнаваць, што там адбываецца, якія там умовы жыцця, які ўплыў мае гэтая краіна на суседзяў. Гэта вельмі важнае пытанне, асабліва цяпер. А тое, што палякі думаюць пра Расію, праўду гаворачы, мяне вельмі моцна турбуе. Я з вялікім здзіўленнем пачынаю разумець, што мы пра нашых суседзяў, якіх павінны добра ведаць, глядзім праз прызму заходніх СМІ. Там пішуць часта зусім незразумелую страшэнную балбатню. Чаму мы прымаем усё тое, што яны гавораць, а не маем свайго погляду? Я маю тут на ўвазе „страшылкі”, якія прыходзяць з Захаду, дзе пішуць, што калі не сёння, дык заўтра будзе новая, чорная вайна! Гэта ўсё прыводзіць мяне да вываду, што ў Польшчы не разумеем суседа, абставін жыцця, філасофіі кіравання гэтай краінай. Вельмі складана спрачацца тут. Гэта такія моцныя ўражанні.

**— А якая гэтая расійская філасофія? Можна сказаць, што Расія, Пуцін рэалізуюць палітыку збірання рускіх зямель?**

Адказам на вашае пытанне можа быць вялікая кніжка. Што гэта значыць палітыка збірання „рускіх зямель” па вобразе Івана Каліты, Кацярыны ІІ? Ці гэта сапраўды магчымае, а можа не? Што гэта значыць на самой справе рускія землі? А можа гэта зусім іншая рэч, якую ў Маскве называюць „рускім мірам”. Што такое рускі свет? Дзе яго межы? Якія яго рысы? Гэта на самой справе вялікае філасофскае заданне, каб гэта ўсё разам сабраць і зразумець. Коратка адказваючы на вашае пытанне я лічу, што дзеянне Пуціна, гэта вельмі памылковае дзеянне. Ён пакуль што абараняе тое, што называецца рускімі землямі ці „рускім мірам”. Ён лічыць, што абараняе, а не вядзе агрэсіўную вайну. У яго разуменні гэта абарончая вайна.

**— „Gogol w czasach Google’a” — гэта артыкулы з 1998-2012 гадоў. Як на працягу 14 гадоў Расія дэмакратызавалася? Змянілася?**

— Расія зыходзіць з траекторыі дэмакратычнага еўрапейскага развіцця. Быў такі перыяд, маю на думцы 2011 год, калі ў Маскве і многіх гарадах праходзілі «белыя падзеі». Здавалася, што Расія вяртаецца на дэмакратычную дарогу. Гэта, на жаль, не здзейснілася. Цяпер відаць, што ёсць адыход ад ельцынскага курсу. Калі гаварыць пра будучае, я не вельмі пераканаbы, што гэта хутка зменіцца. У Расіі выступаюць адмоўныя з’явы. Але надыдзе такі час, можа хутка, час рэфлексіі. Не гавару тут пра народ, а пра кіруючыя эліты. Бо ёсць вельмі многа такіх з’яў, якім трэба супрацьставіцца. Альтэрнатыва вядомая — курс на Еўропу, на Захад.

**— У кніжцы „Soczi. Igrzyska Putina” Вы пісалі, што пра алімпіяду ў Расіі можна было пачуць толькі добрае, або нічога. Як гэта выглядае ў выпадку канфлікту? Чым кормяць расійскія СМІ звычайных людзей?**

— Калі б я ўвайшоў у становішча звычайнага нармальнага расіяніна... хутчэй за ўсё ненармальнага (*смех*). Вядома, з прычыны прафесіі амаль кожнага дня мушу глядзець усе навіны, пачынаючы з канала НТВ у 19 гадзін, а завяршаючы ў 22 гадзіны на маскоўскім канале. Я атрымліваю кожнага дня такую дозу нянавісці, прапаганды, якая гаворыць усялякае глупства. Так многа ў гэтай прапагандзе варожасці, фальшывасці. Гэтая хлусня хутка становіцца відавочнай, але гэта не перашкаджае, каб наступнага дня з тэлевізара гучала тая ж самая хлусня. Тая вялікая доза агрэсіі, нянавісці вельмі моцна ўздзейнічае на маладых людзей. Не толькі на тых, якія маюць савецкі менталітэт, якія заўсёды верылі ў тое, што гаворыць Крэмль. Асабліва маладыя, яны гэта прымаюць і гэтым прасякаюць. Гэта вельмі дрэнна, перш за ўсё для расійскага народа, таму што раней сапраўды да часу Майдана рускія ўспрымалі ўкраінцаў як сваіх. А цяпер гэта варожы народ, бандэраўцы, фашысты. Нават цяпер сінонімам фашыста з’яўляецца ўкраінец. А расіяне верылі, што яны з’яўляюцца часткай „рускага міру”. Украінцы былі часткай рускага свету, а цяпер — ворагі. Не свае. Гэта вялікае паражэнне расійскай прапаганды таму, што яна падзяліла народы. Хацяб я пару гадоў таму цяжка было сабе ўявіць больш брацкі народ расіянам чым грузіны. Грузінаў у Расіі паважалі, яны спакойна прыязджалі, сябравалі, усё было нармальна. Пасля вайны 2008 года наступіў раздзел. Цяпер такое раз’яданне з украінцамі. І гэта надоўга, на вельмі доўга. Нават сёння здаецца, што назаўсёды. Ну, паражэнне прапаганды.

**— Аляксандр Лукашэнка, адкрываючы саміт кіраўнікоў краін СНД адзначыў, што Мінск прапанаваў сябе ў якасці перамоўнай пляцоўкі для канфлікту. Ці Беларусь можа адыграць нейкую ролю ў гэтай мірнай місіі, ці пераконвае Вас Аляксандр Лукашэнка ў ролі арбітра?**

— Пакуль што Аляксандр Лукашэнка з’яўляецца пераможцам у гэтай украінска-рускай сутычцы, таму што атрымлівае вялікія грошы і эканамічныя льготы. Усе мы ведаем, што Беларусь з’яўляецца перакідным пунктам для ўсяго таго, ад чаго Расія адмовілася: для нарвежскага ласося, іспанскіх лімонаў, польскіх яблык. На гэтым усім добра зарабляе рэжым Аляксандра Лукашэнкі. Па-другое, сапраўды ў гэтай сітуацыі паміж Кіевам, з якім у Лукашэнкі добрыя адносіны, і Масквою, гэта вельмі эксклюзіўнае становішча. Відаць, што Лукашэнка не хоча канфлікту і можа выступаць міратворцам. І відаць, што ён можа ўплываць на дзеянні Пуціна. Рэдка так бывае. Пуцін не мае на Лукашэнку спосабу, які знайшоў на амаль усіх лідараў, можа за выключэннем лідара Паўночнай Карэі. Так што палітычны патэнцыял Аляксандра Лукашэнкі ў гэтым канфлікце ёсць.

**— Вы былі падчас прэзідэнцкіх выбараў 2006 года ў Беларусі. Ці цяжэй было выконваць абавязкі карэспандэнта ў Беларусі ці ў Расіі?**

— Мяне дэпартавалі з Беларусі. Акрэдытацыі, праўда, не адабралі, але і не прадоўжылі. Я быў і надалей з’яўляюся неўязным у Беларусь. Шкада, гэта вельмі цікавая краіна і працаваць там было добра. Сапраўды я быў у час гэтых выбараў. Не арыштавалі мяне, мабыць таму, што было шмат журналістаў. Былі важнейшы падзеі чымсьці нейкі „чорны” карэспандэнт.

**— За такога палічылі Вас на Крыме? У Сімферопалі Вы былі затрыманы ФСБ.**

— На Крыме гэта быў сапраўдны ідыятызм. Я, працуючы карэспандэнтам у Расійскай Федэрацыі, паляцеў на Крым з Масквы. Крым, у разуменні Расіі, гэта частка Расійскай Федэрацыі. Так і я, са сталіцы Расійскай Федэрацыі прыляцеў у рэгіён Расійскай Федэрацыі ў разуменні Крамля. А мяне абвінавацілі, што я нелегальна перасек мяжу. Самі разумееце, што гэта параноя. Я нават пісаў тэкст на гэтую тэму, што тым прыдуркам кіеўскія ўлады павінны даць нейкі ордэн, таму што затрымоўваючы мяне, пацвердзілі, што Крым не з’яўляецца часткай Расійскай Федэрацыі. І неяк Парашэнка гэтага не пачуў. Калі будзе такая нагода, я прыгадаю яму аб гэтым (*смех*).

*__Вацлаў Радзівановіч__ з’яўляецца шматгадовым карэспандэнтам штодзёнкі „Gazeta Wyborcza” ў Маскве. Таксама працаваў на Украіне і Беларусі. Лічыцца адным з лепшых экпертаў па пытаннях Усходу. Аўтар кніжак „Gogol w czasach Google’a” і „Soczi. Igrzyska Putina”. У сваіх шматлікіх публікацыях стараецца паказаць сапраўдны вобраз Расіі з усімі яе абсурдамі.*

**Уля ШУБЗДА**

## Выстаўка карцін і разьбы

У пачатку кастрычніка ў галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы (Гайнаўскі павет) адкрылі выстаўку карцін і разьбы ў гліне. Экспазіцыя — плён сёлетняга XIII Міжнароднага мастацка-разьбярскага пленэру пад лозунгам „Квітнеючыя сады”, які прайшоў на пераломе красавіка і мая ў Старым Ляўкове. Удзельнічалі ў ім 15 мастакоў і разьбяроў з Польшчы, Беларусі і Латвіі. Мастакі намалявалі прыгожыя закуткі пушчанскай Нараўчанскай гміны.

Сустрэчу з творцамі адкрыў Мікалай Павільч — войт Нараўчанскай гміны. З удзельнікамі сёлетняга пленэру, якія амаль усе (апрача замежных) прыехалі на адкрыццё выстаўкі ў галерэі, пазнаёміў камісар пленэру Данель Грамацкі з Гайнаўкі. Жыхары Нараўкі і наваколля, якія прыйшлі на адкрыццё выстаўкі, агледзелі першнаперш прыгожыя панарамы вёсак і ваколіц над ракою Нараўкай ды цікавую разьбу ў гліне (разьбу пераўтварылі ў каляровую і трывалую кераміку ў старалякоўскай фабрыцы будматэрыялаў).

Была нагода пагутарыць з мастакамі аб намаляваных імі карцінах і іх творчых планах. Цікавым расказчыкам быў мастак і разьбяр Віктар Кабац з Гайнаўкі. Ён ужо многа гадоў удзельнічае ў мастацкіх пленэрах і быў іх арганізатарам. Наступны пленэр мае адбыцца восенню 2015 года ў Нараўцы.

Школьную і працоўную моладзь, а таксама дарослых запрашаем у галерэю! Варта агледзець гэтую, апошнім часам арганізаваную, і іншыя выстаўкі.

## Па гарачых слядах

У Нараўчанскай гміне (Гайнаўскі павет) здаўна дзейнічаюць ГСаўскія крамы, у тым ліку ў Новым Ляўкове і ў Старым Ляўкове. У краме ў Старым Ляўкове за пачак сухарыкаў вагою ў 285 грамаў, якія выпускае суполка „Мамут”, я заплаціў 3,50 зл. Такія ж самыя сухарыкі ў краме ў Новым Ляўкове я купіў за 4,80 зл. Упакоўкі ад сухарыкаў з наклеенымі цэнамі я перахоўваю. Паказаў іх прадаўшчыцы ў Новым Ляўкове і спытаў чаму гэта так. Хай ведае. Шкада, што цяпер у крамах няма кнігі скаргаў.

Вось так прадаўшчыкі зараз самі дыктуюць цэны прадуктаў. Як бачым так, як ім захочацца. У краме ў Новым Ляўкове цэны хутка растуць перш-наперш на мясныя кансервы. У даным выпадку яны вышэйшыя ў Новым Ляўкове на 30 грошаў. Такая самая кансерва ў краме ў Старым Ляўкове каштуе 5,70 зл., а ў Новым Ляўкове ўжо роўна 6 зл.

Гэты факт буджаражыць. Калі цэны сталі свабоднымі, то гэтакіх выпадкаў з рознымі цэнамі на той жа тавар у крамах сустрэнем шмат. Пару гадоў таму ў Новым Ляўкове г.зв. мятны дропс за 40 грошаў я купляў... за залатоўку! Так зарабляюць гмінныя кааператывы. За дропс — ажно 150%! Вытворца (фабрыка) вызначыў цану на 40 гр., а ГС бярэ за той прадукт паўтара раза больш. Ці гэта не абдзіранне пакупніка? Ці так можна?

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

*(латышская казка)*

# Бацькоўскі загад

У адной краіне жыў мудры чалавек. Калі ён састарэў, паклікаў да сябе сына і кажа:

— Усё, што ў мяне ёсць, я пакідаю табе. Толькі перад гэтым табе трэба выканаць адну задачу: сёння ты адправішся ў дарогу і пабудуеш двары пры кожнай дарозе.

— Навошта такое? — спытаў сын.

— Каб ты мог туды схавацца, калі прыйдзе бяда...

Узяў сын многа золата і адправіўся ў дарогу. Доўга ён падарожнічаў па свеце і збудаваў шмат прыгожых палацаў. З лёгкім сэрцам ён вярнуўся дахаты. Бацька паклікаў яго да сябе і пытае:

— Ці ты выканаў задачу, сынок? Ці зараз ёсць у цябе дамы, куды ў час бяды ты зможаш схавацца?

— Ёсць тата, ёсць! Я пабудаваў усюды, дзе толькі спадабалася мне месца, прыгожыя палацы.

Насупіўся бацька і кажа:

— Ты не зразумеў мяне, хлопча. Пустыя палацы табе ў нічым не дапамогуць. Не пра такія дамы я табе гаварыў.

— Не? — здзівіўся сын,

— Не. Я гаварыў табе пра нешта зусім іншае.

— Паясніце, татачка, можа выпраўлю сваю памылку!

Бацька памаўчаў, а пасля ўзяў голас:

— Ты павінен яшчэ раз пайсці ў свет і шукаць добрых і сумленных людзей, Пасябраваць з імі, дапамагчы грашыма калі трэба. Вось у такіх людзей ты знойдзеш прыстанішча ў ліхую гадзіну... Ведай, сынок, — дадаў стары, — калі ў чалавека на зямлі ёсць прыяцелі і верныя сябры, у яго заўсёды будуць дом і шчасце.

**(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)**



Малюнак Патрыцыі Чамярыс з Нарвы

# Візіт у нараўчанскай прабабкі Сары

— Мама! Мама! А куды мы едзем? — спытала светлавалосую жанчыну дачка, якая сядзела на заднім сядзенні аўтамабіля. У вачах дзяўчынкі ўсё яшчэ стаялі пытанне і недавер. Ці не заблудзіліся яны ў пушчы? Ды навошта ім ехаць у гэтую глуш?

— Я правільна еду, Танечка, — адказала лагодна спадарыня Роза. — Неўзабаве мы наведаем тваю прабабулю Сару.

Яны спыніліся ў лесе, непадалёк Нараўкі. Роза выйшла з машыны і сказала Тані:

— Пайшлі, дачушка!

Дзяўчынка ўхапіла маці за руку і яны сталі падымацца на невялікую горку.

— Не бачу тут хаткі бабулі, — хвалявалася Таня. — Ды і чаму яна пасялілася ў лесе? Што яна тут робіць?

Роза толькі цяжка ўздыхнула. Яна яшчэ не ведала як расказаць дзіцяці пра смерць прабабулі...

Маці пакруціла галавой і пацягнула Таню за сабой на гару. А пасля сказала:

— Сама пабачыш!

Таня спачатку не ведала як назваць тое, што пабачыла. Усюды расла вялікая трава, на дадатак усюды лёталі і бзынкалі камары. Ахінутая нейкім дзіўным прадчуваннем, яна шырэй расплюшчыла вочы і пабачыла многа каменных плітак. Яна нічога не разумела...

*(працяг будзе)*

Эва Аврэчук, Оля Зінкевіч (Гімназія ў Бельску-Падляшскім), Уля Марчук (Гімназія ў Нараўцы), Габрыся Торка, Оля Салавянюк (НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку)

*Апавяданне ўзнікла на Сустрэчах „Зоркі" пасля візіту на кіркуце ў Нараўцы.*



Уля Марчук і Ева Аверчук

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

# Увага, конкурс!!! (№ 42-14)

## Загадкі з роднай хаткі

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў «Зорку» да 2 лістапада, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**

Я засяваю дол ігліцай,
Спрадвеку
слаўлюся жывіцай.
(с....) (Васіль Жуковіч)

**2.**

Выспеў на гародзе
Белы чарадзей.
Галава — на славу,
Да зубка зубок —
Добрая прыправа,
А завуць
ч..... (Міхась Пазнякоў)

**3.**

Мароз-дзядуля сцюжам звонка
Ужо распускае паясок,
Ды пад ялінаю з......
Жыве, зашыўшыся ў пясок.
(Кастусь Свірка)

*Караліна КАРАВАЙ, Нараўка*

## Навука

Прыляцела птушка з лесу,
Села на аконцы
І спявае бясконца,
Што трэба ўставаць
І ісці на працу.
А наша праца – гэта навука.
Калі будзем вучыцца,
То будзем усё знаць.
І лягчэй нам будзе
свет пазнаваць.



*Караліна КОНДРАТ, Нараўка*

## Заяц

Бегае заяц па полі,
Есць ён моркваку даволі.
Воўк кажа:
– Дарагі мой суседзе,
Сёння ты ў мяне на абедзе.



# У Крыўцы з паняй Нінай



Верасьнёвым, сонечным днём, пасля поўдня, вучні нарваўскай школы выбраліся на бівак у былую школу ў Крыўцы. Там мелі сустрэцца з беластоцкімі вучнямі, якія, аднак, не дабраліся на адмысловую экскурсію ў незвычайнае месца на сустрэчу з вучнямі, якія таксама вывучаюць беларускую мову. Перад вольным спатканнем з тэмпераментнай і цікаўнай юнацкай грамадой асцерагалі і настаўніцу, адзіную апякунку на біваку, але пані Ніне такое не было страшным, а адной прыемнасцю пабыць, пагуляць і пагаманіць са сваімі вучнямі на прыродзе. Прытым у пятніцу ўвечары мелі прыбыць аўтаркі кнігі „Падарункі" — Міра Лукша і Кацярына Сянкевіч (былая вучаніца пачатковай школы і гімназіі ў Нарве) ды расказаць пра гэты свежы творчы праект. Размова працягнулася ад начнога вогнішча аж на другі дзень. А самае цікавае было, што ўжо ў трапяткім бляску кастра можна было ўбачыць твары асоб, вядомых з іншых беларускіх мерапрыемстваў — і ў нарваўскай школе, і шырэй, напрыклад, са спектакляў, гавэндаў, дэкламатарскіх і іншых конкурсаў ды аглядаў. У асноўным тут былі вучні з першага класа гімназіі, і чатыры асобы з шостага класа. Было больш ахвотных, з чацвёртага і пятага класаў, але трэба было меркаваць, каб кожны вучань меў дзе спаць... А сёння таксама трапілі яны на... вяселле, зрабілі „браму" маладым — захавалі традыцыю! А на біваку пан Мікалай задбаў пра ўсё. Такія паездкі-ўзнагароды — вельмі прыемныя. Моладзь разам гуляе, рыхтуе харч. Начуюць у вельмі акуратным школьным будынку, хаця, вядома, які там сон на такой экскурсіі! Умовы вельмі добрыя для такой кароткай паездкі. Нарваўскія вучні сустракаліся ўжо з з гарадоцкімі (гадоў 15 супрацоўнічаюць!) і вучнямі са школы Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.

— Юльян Сямёнчык! — прадстаўляецца хлопец, які выступаў, „калі малы быў". А там — Крыстыян Паскробка. Ён і з гавэнды вядомы, і лаўрэат-дэкламатар „Роднага слова". Агата Асташэўская. Патрыцыя Чэмерыс — ужо вядомая аўтарка, якой тэксты з Сустрэч „Зоркі" віднелі на яе старонках. Магда Нікановіч, Юстына Снарская, Оля Асташэўская, Бэата Банькоўская, Агнешка Петручук, Януш Галёнка, Магда Галёнка, Мартына Пякарская... Тузін цікавых індывідуальнасцей, якіх варта адкрыць, і з якімі так цікава працуецца — гэта думка вопытнай настаўніцы Ніны Абрамюк, якая таксама не шкадуе сваёй сілы і таленту, каб яе вучням было цікава на занятках роднай мовы. Яна і піша для іх спектаклі для выступленняў.

(лук)



## Вершы Віктара Шведа

### Чаму сумуеш?

— Чаму сумуеш, Якубе?
— Бо ніхто мяне не любіць.
Не любяць школьныя дзеці,
І ніхто на цэлым свеце.

— Памыляешся Якубе,
Што ніхто цябе не любіць.
Ніхто таго не даследуе,
Шмат людзей цябе не ведае.

### Добры клей

Прыйшоў у магазін Андрэй:
— Патрэбны зараз
добры клей.
Макетам клас займаецца —
Ды ўсё нам адрываецца.

Прадаўшчыца сказала:
— Клей маем дасканалы.
У тым праблема толькі —
Не адарваць ад полкі.

### Чаму сумны дзік?

Настаўнік ад прыроды
Запытвае Юру:
— Чаму дзік заўсёды
І злосны і хмуры?

— Як жа быць вясёлым
У кожнай хвіліне,
Калі тут наўкола
Адны толькі свінні.

### Пралік

У цёмнай прадымленай зале
Маладыя людзі танцавалі.
Тут адна рамантычная пара
На вуха шэпча свае мары.

— Танцуеш, як з балету дама.
— Прыгожа танцуеш
ты таксама.
— А як табе на імя? — Славік.
— Дык мне тако ж,
канец забавы!

*Эвеліна ШЭПКОЎСКАЯ,*
*Тыльвіца, школа ў Міхалове*

### Восень

*Восень прыйшла ноччу,*
*Ужо дрэвы пазалочаныя,*
*Сонейка менш грэе*
*І палі шарэюць.*

*Начныя марозы*
*Прыходзяць у вёску,*
*І ўсё прыемна пагрэцца...*
*Хоць хвіліну.*

## Польска-беларуская крыжаванка № 42

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 39:

Міф, арт, фонд, свой, мерка, фа, парта, вір, тога, дзік, час, як, чайхана. Смала, верабейка, фортка, сойка, Ян, Ада, вочка, фіга, парасон.

**Узнагароду, *навейшы кампакт-дыск Тацяны Беланогай „Свята і цені"*,** выйграла *Вераніка Аксюцюк з Гімназіі ў Міхалове.* Віншуем!



# Шэрыф



Збіралася на вечар, надвор’е было з таго эмацыянальнага напрамку, калі людзям становіцца шкада сабак. Шурык хадзіў па хаце, бо не было ў галаве думкі пра нейкую мэту, куды б можна было падацца, каб крыху раскрыць душу. Яшчэ месяц таму спатыкаўся з Алікам, з якім гаварылі пра ўсё. Два дні таму Аліка пахавалі. Шурыкавы думкі забіліся ў тупік. У такіх абставінах вочы зачапляюцца за халадзільнік і не інакш сталася цяпер. Шурык адкрыў лядоўку, а там шырокіх альтэрнатыў не было. Выняў распачатую невядома як даўно паўлітроўку весялухі ды талерку з кавалкам каўбасы „Наддунайскай”, якую купіў сёння апоўдні; звабіла яго не так экзатычная назва фаршу ў кішцы, як цалкам выгадная ягонай кішэні цана. Ды і за сталом быў той самы тупік. І тут неяк прыгадаліся Шурыку народныя апавяданні, што можна раскрыць душу перад люстэркам. На стале з’явілася старое, яшчэ бацькоўскае люстэрка з драцяной падпоркай. У старым люстэрку выява гэтак жа зношаная, як і само люстэрка, і асоба ў ім здаецца быць нейкім чалавекам звонку, нейкім новым знаёмым, да таго ж прыязным, з якім можна правесці час па шчырасці.

Першы тост быў за здароўе. Другі за поспех. Шурык усміхнуўся да свайго новага сябра, які таксама адказаў усмешкай. У пашарэлым ад зношанасці люстэрку твар падаўся нейкім надта шэрым і Шурыку прыйшло на думку назваць свайго размоўцу Шэрыкам, а па хвіліне — Шэрыфам, як у тэлевізары. Адно трэба было надзець Шэрыфу капялюш, як сапраўднаму шэрыфу. У Шурыка капелюша не было, затое ён штодзённа апранаў баскійку з антэнкай. Ды і цяпер надзеў ён сваю баскійку, крыху сцягаючы яе набок, каб ягоны Шэрыф выглядаў быццам дэсантнік. Такая кампанія вельмі адухавіла Шурыка, пачуў ён прыліў сілы.

Трэці тост быў за прыгажунь. Тут Шурык павёў свайму субяседніку расказ пра свае веснавыя пачуцці і пра іх ломку ўцякаючымі ў гарадскія міражы нязбыўнымі яму каралевамі. Мо калі б Шурык быў больш стройны, калі б ён паказаўся ў мундзіры, мо і нейкая дзяўчына прыхілілася б да яго. Але Шурык быў даволі пасрэдным кавалерам, за якім не цікавілася армія, ды так як і армія, не чапляліся за ім дзявочыя позіркі. Быў калісь раз паехаў у сваты, але калі ягоны хросны ўзгадаў пра пасаг, тады і сучка каравай з’ела. Шурык астаўся ў бабылях. Тут, за сталом, стала яму крыўдна, у вачах бліснулі слёзы.

Чацвёрты тост быў за тых, што на моры. Але зараз Шурыка кальнула тое мора — пры чым яно тут? Ён западозрыў нешта непрыгожае ў свайго субяседніка. Нават не закусіўшы стаў яму пільна прыглядацца. Твар у люстэрку пачаў набіраць непрыемны выгляд, стаў чырванець, круглець, зрабіўся быццам яйцо. Тое яйцо стала неспакойна варушыцца, з яго пачалі вылазіць нейкія чорныя адросткі, якія выраслі ў чорныя ногі, пачала вырысоўвацца чорная галава. Можна нават смела сказаць, што перад Шурыкавымі вачыма адбывалася такая эвалюцыя, якую апісаў Дарвін. А можна сказаць нават больш адважна, што перад Шурыкам разыгрывалася нейкае бурнае таінства накшталт стварэння свету. Неўзабаве ў люстэркавай здані з’явіўся чорны хвост, з галавы выраслі чорныя рогі, у руках пачвары з’явіліся чорныя вілы — усё паводле Дарвіна, дзе на лагічнай мэце эвалюцыі павінен з’явіцца чорны чорт.

Спачатку Шурык прыглядаўся падзеям у люстэрку з цікавасцю, але з часам валасы сталі падымацца яму дыбам. Шурыка ахапіла трывога і ён неўзабаве рвануў ад стала куды ногі панеслі. Са школьнага часу, аднак, асталіся ў ягонай памяці расказы пра бясстрашных савецкіх партызанаў, якія ад лютага ворага хаваліся ў лясных сховішчах. І Шурык са сваёй хаты на акраіне вёскі кулём паімчаў у напрамку лесу, трывожна прытрымліваючы на галаве верную яму баскійку.

Адвыклы ад працяглага высілку Шурык неўзабаве стаміўся і прыстаў пасярод здаўна неабраблянага поля. Цяжка сапучы разглянуўся. Было ўжо цемнавата. Вецер шугаў пагрозлівым шыпеннем у засохлых сцёблах чарнобылю і асату, кпліва пасвістваў у дратах электралініі. Па небе спешна тоўпіліся калматыя хмары, быццам спяшаючы на нейкае чартоўскае вяселле. Шурыкава трывога не ўступала. Па абрысах гарызонту, дзе вырысоўвалася цёмная паласа лесу, уцяміў ён, што недалёка павінна быць Сашава хата.

Саша, старэйшы ўжо ўдавец, жыў самотна на акраіне лесу. Быў ён ціхім чалавекам і можа ніхто пра яго і не ведаў бы, калі б ён што два-тры дні не наведваў крамы, што ў Шурыкавай вёсцы, дзе купляў сабе крыху хлеба і да хлеба. Не ўчыняў ён нікому ніякай крыўды, не пазычаў у нікога грошай ды і сам нікому не даваў пазык. Да ніякіх кампаніяў ён не прыставаў, не курыў, не выпіваў, не спяваў ні ў святочныя дні, ні ў будзённыя. Нават найбольш пранырлівыя бабскія языкі не кіравалі ў ягоным напрамку ніякага зацікаўлення. Жыў ён, можна сказаць, як узорны пустэльнік ва ўзорным скіце.

У Сашавай хаце святло ўжо не гарэла, але Шурык далікатна пастукаў у акно. Знутры пачуўся рух і ў акне паказаўся Саша.

— Хто там? — спытаў ён.

— Гэта я, Шурык, з вёскі. Стаміўся крыху. Ці можна будзе крыху аддыхацца?

— Заходзь, калі такая справа, — сказаў Саша, падаючыся ў сенцы і адсоўваючы ад дзвярэй засаўку.

Гаспадар павёў госця на кухню, запаліў святло.

— Бачу, што ты цэлы трасешся, празяб у холадзе — заўважыў ён Шурыку. — Сядай, а я зараз схаджу ў паветку, прынясу крыху дроў, распалю ў плітцы, завару табе чай, нагрэешся.

— Ой, добра, добра, — усцешыўся Шурык. Пачуўшы пра гарачы чай яму стала цяплей на душы, забыў пра свой нядаўні жах. А калі Саша выйшаў з хаты па дровы, Шурыку стала і зусім цёпла ад зусім нядаўна выпітай з „шэрыфам” весялухі, ён раптоўна размяк, яшчэ толькі апошнім праблескам памяці ўсведамляючы, што перад сном трэба засунуць у сенях засаўку. Забяспечыўшыся такім чынам ад няпрошаных гасцей ён паваліўся ў ложак і маланкава заснуў каменным сном.

А Саша за той час набраў добрае бярэмя дроў і падаўся ў парог сваёй хаты. Але дзверы не паддаваліся — былі заперты засаўкай. Палажыў Саша дровы на парог і стаў стукаць у дзверы, у вокны. Ды безвынікова. Прыслухаўся — з хаты даходзіла Шурыкава храпенне. Не было як увайсці ў сваю ўласную хату, якую нечакана заняў нечаканы кватарант — трэба было чакаць, аж той выспіцца і прабудзіцца. Непакоіўся адно Саша, каб з Шурыкам штосьці дрэннае не здарылася, так як было гэта тры гады раней у суседняй вёсцы, дзе такі ж начны госць адправіў сваю душу ў іншае вымярэнне, пакідаючы гаспадару непатрэбнае ўжо той душы цела. Забраўся Саша ў сваю падшытую ветрам паветку, шукаючы там нейкага зацішку ад халодных удараў ночы, прысядаючы час ад часу то на калодку, то на падабраны касцёр пален. Час ад часу ўставаў, падыходзіў пад акно хаты, наслухоўваў, ці ўсё ў хаце ў парадку, хлопаў рукамі каб крыху хаця нагрэцца, каб не акалець. А вецер не сціхаў усю ноч, крыху супакоіўшыся на золаку. Ранішні холад яшчэ больш дакучаў Сашу, аднак ён цярпліва трываў у нечаканым выпрабаванні.

Хмары крыху разышліся, паднялося халоднае сонца. Саша стаў больш нецярпліва заглядаць у акно, час ад часу грукаючы далікатна ў шыбы або больш громка ў дзверы.

Шурык у рэшце рэшт разбудзіўся. Са здзіўленнем разгледзеўся па чужой яму хаце. Раптам пачуў грукат ў акно — за акном стаяў Саша. Шурык здзівіўся яшчэ больш, чаго гэта Саша ад яго хоча і то ў такіх дзіўных абставінах. І толькі як адчыніў сенцы і глянуў навонкі, уцяміў, што ён знаходзіцца менавіта ў Сашавай хаце.

— Што тут здарылася? — спытаў ён гаспадара.

— А што ж? Зайшоў ты да мяне ўчора вечарам у хату і заперся з сярэдзіны, а я калеў усю ноч на дварэ, — адказаў паблажліва і без гневу Саша ды стаў хутка распальваць у плітцы. — Зараз завару чай, нагрэемся, бо і табою, здаецца, калоціць не менш чым мною.

Шурык моўчкі стаў вяртацца памяццю ва ўчарашні дзень. Прыпомніў „шэрыфа”, але што было пазней, зарасло яму ў памяці цёмным лесам, занясло калматымі хмарамі, задула шыпучым ветрам. Паснедаўшы і нагрэўшыся гарачым чаем і цёплай размовай з Сашам, падаўся Шурык у вёску, у сваю хату, старанна насунуўшы на галаву сваю баскійку з антэнкай.

іван









# Крыху складанае мінулае



Былая школа ў Малінніках

На аўтобус у Сямятычы, што адпраўляецца з бельскага аўтавакзала ў дзесяць гадзін дня, сядае пяць асоб. На прыпынках каля Міхайлаўскай царквы і каля шпіталя лік пасажыраў не буйнее. Зараз за горадам, калі паказваюцца першыя палі, шафёр сямятыцкага аўтобуса пачынае наракаць на сялянскую долю.



Фрагмент вуліцы ў Сухавольцах




Калі крыху далей паказаліся ў цэлай сваёй велічы ветракі электрагенератараў, сваё нараканне скіраваў ён на іх — што ад іх, асабліва ад іх шуму, прападуць птушкі. На маю заўвагу, што і калісь былі таксама ветракі, і то з немалымі на той час крыламі, адказвае, што тадышніх ветракоў было мала — адзін на дваццаць кіламетраў. „Ікея", што з другога боку шашы, ужо не выклікала ягонага наракання, можа ўжо пагадзіўся з яе прысутнасцю...

І тыя маючыя нашумець ветравыя электрагенератары, і невясёлая сялянская перспектыва выклікаюць нейкі сорт песімізму, нейкі ціск прыгнечання. Не весялей робіцца мне і ў Малінніках, дзе пакідаю аўтобус, на від апусцелага будынка колішняй тамашняй школы. Калі не памыляюся, тая школа была ахрышчана імем нейкага чырвонаармейца...

Каля кіламетра за Малліннікамі ў напрамку Кляшчэляў прыдарожны крыж на саліднымі пастаменце з чырвоных цаглін. Гэты адметны крыж інтрыгаваў мяне, калі раней сузіраў я тамашняе наваколле з акон аўтобусаў. І вось маю нагоду крыху пагасіць сваю да яго цікавасць. На пастаменце крыху загадкавы, быццам апакаліпсіс ці іншае прароцтва, відаць дыктаваны хваляваннем, надпіс: „Сей крест напоминает нам бывший разрушен в 1940 г. красноармейцами, а в июне 1941 г. Господь послал слугу своего, который посетил ето место и поклонился ему. Июнь 1998 г."

І вазьмі тут здагадайся, як мясцовы народ ставіцца да тых чырвонаармейцаў. Мабыць станоўча, бо ж і школа была названа ў іх гонар, і найдаўжэйшая ў гмінным цэнтры вуліца таксама; праўда — было гэта ў безальтэрнатыўны час... І, магчыма, што і разрушэнне імі крыжа за Малліннікамі таксама трэба ацаніць пахвальна, бо дало яно нагоду дбайненька паставіць новы і ўсхваліць, хаця толькі ананімна (бо хто ведае, што пакажа час), ягонага будаўніка. Але магчыма, што той будаўнік не надта пахвальна думаў сабе пра афіцыйна калісь усхваляваных прышэльцаў, якія завіталі сюды зводзіць свае цалкам чужыя парадкі. Магчыма, што і тутэйшы паспаліты народ таксама не надта пахвальна пра іх думае, толькі не мае яшчэ адвагі адкрыта пра гэта сказаць. Ды і прывычка асталася, што мае быць так, як было сказана, а свае меркаванні бяспечна трымаць толькі ў сваёй хаце, што — з краю. Імя заступніка маліннцкай школы выводзіць адтуль тамашняя дэмаграфія, а вось пэўны клопат астаецца з назвай „чырвонаармейскай" вуліцы ў Орлі, да якой час ад часу падаюцца прыколы звонку. Клопат, бо выклікала б гэта шмат шуму ў паперах. Да таго ж усялякі паспаліты народ вельмі ахвотны мець сваіх куміраў, а гэта ж чырвонаармейцам стаўлялі калісь прывітальныя брамы нашы тутэйшыя продкі, несвядомыя яшчэ сутнасці таго „раю", якога яны ад прышэльцаў спадзяваліся...

Каля згаданага крыжа сыходжу з асфальтоўкі і кіруюся ў перпендыкулярную да шашы палявую дарожку, якою спадзяюся дайсці да Садоў — залешанскага прысёлка. Адышоўшы крыху ад шашы, з невялікага ўзвышша аглядаюся ў бок Маліннік, а за імі захапляючая панарама — над гарызонтам свае крылы распасцерлі згаданыя раней ветракі, быццам нейкія анёлы-ахоўнікі ўсяго наваколля...

Далей палявая ў прынцыпе дарога становіцца часткова лясной. Побач яе чаргуюцца з сабою ўчасткі маладога лесу з участкамі яшчэ абрабляннага і ўжо запушчанага поля. Хто ўспеў раней вырвацца з вёскі ў горад, таго спадчынныя землі зараслі ўжо маладым лесам, хто з гэтым спазніўся, таго ўчасткі зараслі аблагом, а хто яшчэ трымаецца вёскі, той варочае зямельку быццам міфічны Сізіф наканаваны яму камень.

У крышку абшырнейшым ляску заўважаю некалькі звалак хатняй вясковай непатрэбшчыны. Тут далёка ад усялякага прыдзірлівага вонкавага вока, таму сюды менавіта народ вывез тыя ранейшыя каштоўнасці, якія ў час парадкавання хат сталі ўжо заваддзю. І чаго там толькі няма: і паламаныя хатнія электрапрыборы, і мэбля, і вопратка — у тым ліку і каштоўныя калісь футры, што, мабыць, асталіся па нейкай нябожчыцы, і саламяныя каробкі, і дзіцячыя каляскі, і іншая ўсялячына. На іншай звалцы паламанае абсталяванне нейкага гастранома, старыя вокны, фіранкі... Каб занадта не турбавацца парадкучы старыя хаты новыя гаспадары выкінулі ўсе нямоднасці маўклівай прыродзе, а яна цярпліўленька размяркуе прывезеныя ёй „дары" ад прамінаючых цывілізацыйных дасягненняў.

Мінуўшы некалькі абрамленых маладым лесам абробленых і запушчаных палеткаў выйшаў я на маладую дуброву, якая ўзрадавала вочы ўсёй вясёлкай найшляхетнейшых восеньскіх колераў. А за гэтай дубровай паказаліся вясковыя збудаванні, непрадбачаныя на маёй карце. Лесна-палявая мая дарожка выходзіла проста на вулічку невялікай вёскі; з абрысаў на карце вынікала, што гэта Равы — прысёлак Залешан, але з ходу маёй дарогі на той жа карце вынікала, што гэта можа быць іншы прысёлак Залешан — Сады. Зараз у пачатку тае вуліцы выйшла мне насустрач пажылая жанчына, але яна аказалася некантактабельнай калекай; паказала мне яна рукою ў напрамку недалёкай хаты...



Царкоўка ў Сухавольцах

На першай справа хаце віднела салтысоўская шыльда, але паколькі на панадворку за ёю не было відаць адзнак ніякага руху, падаўся я на іншы панадворак, адкуль даходзіў стук кляпання касы. І ў мужчыны, які касу кляпаў, таксама я нічога не даведаўся, бо сказаў ён мне, што даўно страціў слых і нават не памагаюць яму ардынавання лекарамі слухавыя апараты. І сканстатаваў ён, што ніякая размова ў нас не атрымаецца.

Не рупіць мне быць няпрошаным госцем у нашых сялянскіх хатах, дзе часта жывуць адзінокія асобы, якіх можа трывожыць візіт незнаёмага. Але тут рупіла мне высветліць мае тапаграфічныя сумненні, таму адважыўся я заглянуць у салтысоўскую хату. Гаспадыня паведаміла мне, што там сапраўды Равы, прысёлак Залешан і што ў Залешанах солтыс толькі адзін — цяпер акурат у Равах. За вясковымі цікавінкамі рэкамендавала мне яна пайсці ў галоўную вёску, што за шашою — там жа манастыр...

У залешанскі манастыр мне не рупіла, бо там, здаецца, адна толькі матушка-ігумення, да таго ж у яе шмат такой работы, над якою трэба засяродзіцца. Але вось у цэнтры Равоў, дзе з вуліцай перасякаецца дарога ў напрамку Садоў, заўважыў я някідкі на від цэментны крыж. Спыніўся я перад ім — гэта мемарыяльны крыж у памяць той трагедыі, якая завітала ў Залешаны 29 студзеня 1946 года, калі палачы атрада Бурага спалілі і забілі 16 жыхароў вёскі за тое, што ваякі Бурага не былі кумірамі мясцовых сялян; кумірамі мясцовага насельніцтва былі ў той час чырвонаармейцы. Да такога размеркавання сімпатый у вялікай ступені прычыніліся міжваенныя чыноўнікі, прадстаўляючыя, так як і атрад Бурага, санацыйную Польшчу, а даволі кароткі перыяд савецкага тут панавання не ўспеў тых сімпатый выправіць; дзеянні атрада Бурага значна тое выпраўленне замарудзілі. Дарэчы, пра гэта не надта стараецца і цяперашняя варшаўка, упарта адмаўляючы якой-колечы кампенсацыі ахвярам пасляваеннага тэрору. Тут, мабыць, іграе ролю яшчэ адзін фактар.

У нашай краіне кожныя некалькі гадоў адбываюцца выбары, у якіх галоўную ролю адыгрывае электарат. Ахвотныя на вырбарчую смятанку ўсяляк намагаюцца таму электарату падлізацца. Можна электарату абяцаць розныя цуды, але можна яго таксама ўсцешыць урадждаем герояў. А героі людзям, асабліва загубленым у бурнай дынаміцы сучаснага жыцця, патрэбныя — яны з'яўляюцца тым эталонам, паводле якога паспаліты чалавек размяркоўвае свае паводзіны, будуе свае жыццёвыя арыенціры — героі чалавеку патрэбныя амаль як кісларод. Такім вось „кіслародам" — гераічнымі чырвонаармейцамі — насычаюць колькі ўжо гадоў савецкі ці „постсавецкі" народ за нашай усходняй граніцай тамашнія ўлады; той водар даходзіць і да нас. У апошніх гадах і ў нашай краіне ў лік падобных герояў дадаюцца, з актыўным удзелам апошніх прэзідэнтаў дзяржавы, змагары пасляваеннага падполля. У прынцыпе слушна, бо той пасляваенны ў нас парадак быў вытворым бальшавіцкага і патэнцыйна нёс за сабою ўсе жахі, якія спазналі жыхары сталінскай дзяржавы. Праблема адно ў тым, што робіцца гэта навалам, не ачышчаючы зерня ад мякіны; аматары палітычнай смятанкі не ставяць сваёй галоўнай мэтай высвятлення нейкай праўды. Героі шчодра раздаюцца дамінуючаму электарату, не надта аглядаючыся на іншых. Крыху крыўдна, але калі глянуць у суседні бок — нечага наракаць, ніхто не жыве ў раю...

У Сухавольцах недалёка расходных дарог у Залешаны, Сакі і Вульку-Выганоўскую, працуе крама ў прыватнай мураванцы. Побач дзвярэй званок, а пры ім падказка званіць каб выклікаць персанал. Але мне званіць не прыйшлося — прадавачка ў краме была, бо і быў наведвальнік, і была няспешная гутарка між імі. Перад крамай „піўны" арагодчык, дбайна вымашчаны дробным каменнем, два драўляныя сталы і такія ж лавы побач.

Пасярэдзіне вёскі другая крама, здаецца, што былая геэсаўская. Там таксама побач дзвярэй званок, з такой жа падказкай. Мабыць тыя падказкі падыктаваныя жыццёвымі патрэбамі: калі няма пакупнікоў, уласнік крамы займаецца сваімі прыватнымі справамі, а калі з'явіцца пакупнік, той апаратыўна выклікае прадаўца, быццам трывогу на тэлефонны нумар 112, быццам у інтэрнэтнай краме, дзе ў якасці прадаўца выклікаецца адмысловы партал. У інтэрнэце партал стараецца прыцягнуць да сябе адмысловымі банэрамі, а ў Сухавольцах крама ў цэнтры вёскі вабіць пакупніка адмысловым вонкавым аздабленнем: перад крамай воз поўны тонкіх бярозавых дроў, каля яго белы пластмасавы стол, адно без крэслаў — каб пакупнікі не займалі замнога часу прадаўцу — час не аглядаецца на мінулае — ён мае сваю рэальную цану...

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Жаноцкая краса і сіла ў Нарве

Бібліятэка ў Нарве вядзе ад гадоў адмысловыя мастацка-літаратурныя сустрэчы, на якія заўсёды прыбывае поўная зала аматараў слова, жывапісу і песні. Аўтары з ахвотай прыязджаюць у гэтую старажытную мясціну з усяе краіны, і не толькі з Польшчы, а час ад часу вітаюць бібліятэчныя муры творцаў тутэйшых — з Падляшша, прытым і беларускамоўных. І ў вераснёўскую сонечную пятніцу (19.09.) аўтарак на вечарыне ў Нарве сабралася тры (не лічыўшы пішучых асоб з публікі, а такія ёсць) — сяброўкі-«белавежанкі» Міра Лукша, Кацярына Сянкевіч і Лідзія Маліноўская, а чацвёртай асобай з-за аўтарскага стала была Марта Маліноўская, вядомая спявачка, удзельніца агульнапольскай „Бітвы на галасы" на тэлеканале TVN і салістка-пераможца шматлікіх фестываляў беларускай песні. Спеў прагучаў у выкананні таксама паэтэсы і спявачкі (вядомай м.інш. з бельскай «Маланкі»), а таксама мастачкі, маці Марты, Лідзіі Маліноўскай, якая пісала тэксты да шматлікіх песень у выкананні дачкі. Другой мастачкай у гэтай кампаніі была маладая жывапіска, студэнтка мастацтва Кацярына Сянкевіч, нарвянка, аўтарка ілюстрацый да кнігі паэзіі для дзяцей Міры Лукшы, аўтарка дзвюх кніжак паэзіі — «Дачка ружы» і «Гарбата з незабудак». Сярод кніг была таксама кніжка лірыкі Лідзіі Маліноўскай «Жураўліная туга», а побач карцін Кацярыны, намаляваных рознай тэхнікай на фанеры, гледачы маглі пацікавіцца выбарам прац Лідзіі Маліноўскай — алейных, фатаграфічных і фларыстычных — з пялёсткаў кветак і пёрак. Да канцэрта на колер, словы і музыку двух пакаленняў далучана была творчасць народнай паэтэсы з Нарвы (родам з Катлоўкі) Веры Русіновіч, гаспадыні і земляробкі. А да пералічанага багацця мастацтва прысутных аўтарак варта дадаць і кулінарную творчасць (гатаванне і здабленне) Лідзіі Маліноўскай.



Злева: Міра Лукша, Кацярына Сянкевіч, Марта і Лідзія Маліноўскія

— Прысутныя тут сяброўкі Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа», — прывітала дырэктарка бібліятэкі Анна Анджэюк-Савіцкая. — Найстарэйшая тут «віноўніца» сустрэчы Міра Лукша, «маці» «Падарункаў», і наймалодшая — ці не адзін з самых маладых аўтараў выдадзеных кніжак у краіне — наша зямлячка Кася Сянкевіч, якой першая кніжка выйшла на заканчэнне яе мастацкага ліцэя.

— У «Белавежы», дзейсная літаратурнай групе, былі аўтары, якія роўна на сто гадоў старэйшыя ад Кацярыны (1891-1991 гады нараджэння), што сведчыць пра жывучасць і моц нашага літаратурнага аб'яднання, — адзначыла Міра Лукша. — І спадзяемся, што будзе працяг, будуць новыя аўтары беларускага слова. А чаму мы тут усе дзяўчаты з'явіліся ў Нарве? Гэта невыпадкова мы ўзялі гожую пявунню Марту, каб заспявала таксама матчыны песні. Невыпадкова тут моцныя ў родным слове беларускія жанчыны, якія заварожваюць красу колерам, словам, нотай і звычайным жыццём, для якога шукалі і знайшлі яны прыўкрасу, пасярод жыццёвых турбот. Гэта краса і сіла. Гэта аснова і культуры, і жыцця — жанчыны. Мамы, бабулі, сёстры, дочкі, унучкі. І на гэта абапіраецца тая краса і сіла, таксама і нашай беларушчыны тут. Мы гэта запісваем і пакідаем пакаленням — хто ў слове, хто ў карціне, хто ў рупнай працы. Можа нам здацца малаважным, што мы запішам пару слоў на роднай мове, што запішам тую «жураўліную журбу» з далёкіх дарог, як бяльшчанка Лідка, родам з Дубяжына, а вершы яе пісаліся на чужыне, куды закінуў яе лёс у пошуках хлеба. Тутэйшая Кася Сянкевіч, з Нарвы і Граматнага, цяпер у Любліне, нядаўна прыехала з Мінска, дзе выйшла яе «Гарбата з незабудак» — дзеля *незабывання*. І гэтыя працы паказваюцца — у сакавіку творы Лідзіі Маліноўскай выстаўляліся на калектыўнай выставе ў Бруселі, дзе яна расслаўляла таксама свой Бельск, карціны Кацярыны — нядаўна ў Мінску. Душа Кацярыны выяўляецца не толькі ў яе карцінах і вершах, але таксама і ў яе філасофскіх роздумах, але не ўсё яна паказвае. Нашы аўтаркі вельмі сціплыя, уцякаюць ад вока камеры. А Марта вучыцца на фінансах і рахункаводстве — хто скажа, як гэта далёка да мастацтва. Ну, што ж, краса, сіла і... грошы.

Было і жарту, і слёз, як гэта бывае на паказах, дзе прымаюць удзел Маліноўскія, вельмі эмацыйныя дзяўчаты. Матылёвыя колеры, якія ўлавілі на сваіх працах Кацярына і Лідзія, гэта таксама тэхніка. Кася Сянкевіч, ілюструючы «Падарункі», прымяняла алейную фарбу, пчаліны воск, жывіцу, мармуровую муку, агонь для выпальвання ліній, уклейвала фрагменты матэрыялу, напрыклад, фіранкі. У кнізе яны, карціны, вядома, плоскія, але гледачы маглі дакрануцца да арыгіналаў, адчуць іх фактуру. Чыталіся вершы — але так сапраўды верш хоча быць прачытаны канкрэтным чытачом, на лісце папяровай кнігі застануцца папілярныя лініі кожнага, хто ўзяў яе ў свае рукі. У гміннай бібліятэцы ў Нарве і яе філіялах застаюцца творы гасцей кніжных сустрэч, якіх шмат ужо правяла гэтая бібліятэка. Шмат тут таксама ўжо твораў на беларускай мове, тутэйшых аўтараў.

Міраслава КАСТАНЧУК




## http://grodnolib.by

Сярод мноства бібліятэк у Беларусі адной з найбольш цікавых падаецца бібліятэка ў недалёкім ад Беластока Гродне. Гэта дзяржаўная навуковая ўстанова, якая, згодна інфармацыі, што месціцца на яе сайце, прыкладае намаганні па захаванні не толькі кніг, але і беларускай мовы. Адметна, што носіць гэта бібліятэка імя вядомага расійскага навукоўца-філолага Яўхіма Карскага, які, дарэчы, паходзіць з вёскі Лаша, што пад Гроднам.

Сайт бібліятэкі месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://grodnolib.by**, і падаецца нейкім крыху змрочным. Спрыяе такому ўспрыняццю выяўленне, дзе пераважае карычневы колер. Магчыма, гэтая акалічнасць не прыцягне выпадковага блукальніка па інтэрнэце, але для таго, што часцяком заходзіць на сайт, будзе цікавіць менавіта інфармацыя на ім. А яна для сучаснай беларускай бібліятэкі даволі незвычайная.

Першае, што ўбачыць цікаўны карыстальнік на галоўнай старонцы, гэта абвестку аб тым, што бібліятэка аб'яўляе набор на курсы беларускай мовы на 2014-2015 навучальны год. „Запрашаем усіх, хто жадае навучыцца размаўляць па-беларуску ў паўсядзённым жыцці", — кажуць гродзенскія бібліятэкары, адзначаючы, што заняткі цягнуцца ўсяго дзве гадзіны і бываюць толькі раз на тыдзень. Ці можна вывучыць хоць якую мову, нават беларускую, у такім рэжыме? Відаць, можна, калі вывучаюць яе ў гродзенскай бібліятэцы імя Карскага. У любым выпадку ўсё залежыць ад таго, наколькі моцнае жаданне ў навучэнца.

Сайт бібліятэкі нібыта мае тры моўных версіі — беларускую, рускую і англійскую. Праўда, звычайным клікannем на адпаведны сцяжок пераключэння не даб'ешся, бо пераклад вядзецца праз Google, прычым з беларускай на іншыя мовы. Пэўна, гэтая опцыя існуе на сайце фармальна, бо тэксты па-англійску там пабачыць не ўдалося, а беларуская версія ўтрымлівае і рускамоўныя артыкулы.

Да гонару гродзенскіх бібліятэкараў варта адзначыць, што навіны на сайце абнаўляюцца даволі аператыўна, як для сайта бібліятэкі. Гэта значыць, што захавальнікі ведаў ангажаваны на прыцягненне як мага большай колькасці наведвальнікаў і чытачоў. У гэтым рэчышчы натуральным падаецца запрашэнне адзначыць там дзень імяніннікa. Праўда, тычыцца гэта, як потым высвятляецца, выключна дзяцей.

Увогуле, дзецям бібліятэка надае вялікую ўвагу. Так, на „Дзіцячай старонцы" бібліятэкары абяцаюць падрастаючаму пакаленню, што яно будзе весела бавіць свой час, калі зазірне да іх. „Мы прапануем вам: цікавыя гульні, віктарыны; „Жамчужыны Прынямоння": электронная гульня-падарожжа па знакамітых мясцінах Гродзеншчыны", — распавядаецца на „Дзіцячай старонцы".

Дарослым таксама не будзе сумна ў бібліятэцы. Па-першае, чытанне твораў Васіля Быкава, што адмыслова прапануе яе сайт, надзвычай карысна само па сабе. Па-другое, творчы праект „Дакрануцца да гісторыі", які распрацавалі гродзенскія бібліятэкары, прадугледжвае прэзентацыю рэдкіх кніг з фонду бібліятэкі адначасова з кніжнымі зборамі прыватных калекцыянераў і арганізацый. Ну і па-трэцяе, віртуальнае падарожжа па доміку Элізы Ажэшкі не пакіне без уражанняў нават таго, хто хадзіў па ім у рэчаіснасці.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

Дата з календара

Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара



Выратаваны збор твораў

## 115 гадоў з дня нараджэння Адама Бабарэкі

Беларускі пісьменнік і літаратуразнаўца Адам Бабарэка нарадзіўся 14 кастрычніка 1899 г. у вёсцы Слабада-Кучынка Слуцкага павета (цяпер Капыльскі раён) у сям'і беззямельнага селяніна. Вучыўся ў школе ў Слуцку, у 1918 г. скончыў Мінскую духоўную семінарыю, пазней настаўнічаў на роднай Случчыне.

Быў актыўным удзельнікам антыпольскага падполля і партызанскага руху. Арыштаваны тагачаснымі польскімі ўладамі ў 1920 г. Пасля вызвалення зноў працаваў настаўнікам, быў сябрам рэвалюцыйнага камітэта Пукаўскай воласці, загадчыкам валаснога аддзела народнай асветы. У 1921-1922 гг. служыў у Чырвонай Арміі. У 1922-1927 гг. вучыўся на этнолага-лінгвістычным аддзяленні Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў у рэдакцыі газеты „Савецкая Беларусь". Быў адным з арганізатараў легендарных літаратурных аб'яднанняў „Маладняк" і „Узвышша". У 1926-1929 гг. працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў Камуністычным універсітэце Беларусі, а з 1928 г. — асістэнтам кафедры гісторыі беларускай літаратуры БДУ.

Як і многія іншыя беларускія літаратары Адам Бабарэка быў арыштаваны ДПУ БССР 25 ліпеня 1930 г. у Мінску па справе „Саюза вызвалення Беларусі". Пісьменнік быў асуджаны пазасудовым органам НКВД 10 красавіка 1931 г. як «член контррэвалюцыйнай арганізацыі» і за «антысавецкую агітацыю» да 5 гадоў ссылкі. Цэлы год прабыў у мінскай турме, ссылку адбываў у пасёлку Слабадское Кіраўскай вобласці Расіі, з канца 1934 г. — у Вятцы. Працаваў бухгалтарам. Тэрмін ссылкі быў падоўжаны яшчэ на два гады ў адміністрацыйным парадку.

Паўторна арыштаваны 24 ліпеня 1937 г. у рамках сфабрыкаванай маштабнай акцыі па рэпрэсаванні беларусаў, высланых ОГПУ ў пачатку 1930 гг. У часператрусу Адамава жонка Ганна схавала ў ложку, на якім нібыта спала дачка, увесь мужаў архіў. Так былі выратаваны паперы таленавітага творцы. Паводле пастановы „тройкі" па Кіраўскай вобласці ад 15 лютага 1938 г. быў засуджаны да 10 гадоў зняволення ў савецкім канцлагеры. Пакаранне адбываў у пасёлку Княж-Пагост Комі АССР у Паўночным чыгуначным лагеры НКВД, дзе памёр 10 кастрычніка 1938 г. у турэмнай бальніцы. Пакінуў сіротамі дваіх дзяцей, дачка Алеся доўга жыла ў Маскве.

Па першай справе Адам Бабарэка пасмяротна рэабілітаваны судовай калегіяй па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР 15 лістапада 1957 г., па другой — 4 ліпеня 1959 г. Кіраўскім абласным судом. Групавая справа Адама Бабарэкі і іншых з фотаздымкам захоўваецца ў архіве КГБ Беларусі.

Як пісьменнік пісаў пад псеўданімамі Адам Гаротны; Я. Каліна; Якім Каліна; Малады настаўнік; А.Чэмер і рознымі крыптанімамі. Дэбютаваў у 1920 г. вершамі і апавяданнямі ў агульнабеларускім перыядычным друку. У 1925 г. у Мінску выдаў кнігу „Апавяданні". Бабарэка распрацоўваў метадалагічныя праблемы літаратуразнаўства і эстэтыкі, прынцыпы народнасці, сацыяльнай і эстэтычнай каштоўнасці літаратуры, даследаваў гісторыю беларускай літаратуры, творчасць Купалы, Коласа, Багдановіча, Дубоўкі, Чорнага і іншых. Бараніў правы на вольнае творчае самавыяўленне.

У 2011 г. з друку выйшаў каштоўны збор твораў Адама Бабарэкі.

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Дружная сям’я

Вёска Чаромха — адно з большых сялэцтваў Чаромхаўскай гміны. Налічвае яно 169 дамоў (у тым ліку дзве сядзібы на Пазняках). У вёсцы працуюць дзве прадуктовыя крамы, бензастанцыя, пункт абмену валют. Ёсць шыкарна адрамантаваная святліца. Актыўна дзейнічаюць добраахвотная пажарная каманда, пеўчая фальклорная група і гурток Польскага саюза пенсіянераў і інвалідаў (ПСПіІ). Усе яны ствараюць адну дружную сям’ю. Працавіты і зладжаны гэта калектыў. Доказам гэтаму могуць быць арганізаваныя тут мерапрыемствы. На апошнім з іх прыйшлося мне ўдзельнічаць. Арганізатарам Дня сеніёра, бо так назвалі імпрэзу, было кола ПСПіІ, якое ўзначальвае Надзея Унучка. Сустрэча адбылася 4 кастрычніка. Некалькі мінут да першай, калі арганізатары рыхтавалі застолле, а перад будынак святліцы заязджаў войт Юры Шыкула, нечакана раздаўся гудок пажарнай сірэны. Перш-наперш я падумаў, што гэтак прывітаюць войта. Але аказалася, што гэта трывога на сапраўдны пажар. Вокамгненна збегліся пажарнікі. Атрад пад камандаваннем Мірaслава Кердалевіча на сігнале падаўся ў напрамку Кляшчэляў. Гарэла трава непадалёк Паграбоў.

Пасля пажарніцкага заклапоту арганізатары запрасілі гасцей да супольнага застолля, у тым ліку войта Юрыя Шыкулу з жонкай Тамарай, настаяцеляў з Чаромхі-Станцыі а. Юрыя Пліса і а. Мікалая Беламызага, а таксама а. Рыгора Наўмовіча з Кузавы, фальклорную групу пявунь з Дабрывады ды ўпаўнаважанага Раённага аддзялення ПСПіІ ў Чаромсе Мікалая Кердалевіча з жонкай. Перад спажываннем страў святары супольна згаварылі малітву і блаславілі стравы, затым пачалася бясeда. Сталы былі багата застаўлены ежай і напіткамі. Варта адзначыць, што гурток пенсіянераў ладзіў пачастунак з уласных сродкаў, інакш кажучы, з добраахвотнай складчыны (ПСПіІ прыкінуў адно 150 зл.). Такую волю прад’явілі самі ўдзельнікі. Лакальная імпрэза Дня сеніёра ў вёсцы Чаромсе гэта доказ належнаму фармаванню міжлюдскіх адносін у вёсцы. Прыклад варты пераймання. Ініцыятарам грамадскіх задум у вёсцы з’яўляецца трайны саюз: солтыс Яўгенія Кердалевіч, лідар пенсіянераў Надзея Унучка і спявачка фальклорнай групы Анна Бацюк. А станоўчую падтрымку грамадскім дзеянням даюць пажарнікі і ўсё сяло.

Надзея Унучка

У чаромхаўскім застоллі ўдзельнічала каля паўсотні чалавек. Сустрэча праходзіла ў сяброўскай атмасферы. Было многа песень. Спявалі ўсе — гаспадары і госці. Нават а. Юры Пліс памагаў. А калі Яўгенія Кердалевіч заявіла, што Надзя Унучка адзначае дзень нараджэння, пявунні з Дабрывады ўручылі юбілярцы букет кветак. І панеслася па зале традыцыйнае „Многае лета”. А калі сціхлі песні, пачаналіся танцы ў рытм дыскапольных мелодый. І так напераменку. Шкада было пакідаць вясёлую кампанію ў поўным разгары. Дамашнія абавязкі выклікалі дамоў. Каму ў дарогу, таму час...

Карыстаючыся нагодай, хачу падзякаваць арганізатарам за запрашэнне, а жыхарам сяла пажадаць далейшых поспехаў на ніве арганізавання культурных мерапрыемстваў ды фармавання належных міжлюдскіх адносін.

Тэкст і фота Уладзіміра СІДАРУКА

Кулінарныя вандроўкі ў часе і прасторы

# Малодзіва

Італьянцы абажаюць макароны, украінцы — боршч, а што ядуць нашы людзі? Якраз вякамі фармавалася наша кулінарная тоеснасць, але ці можам гаварыць пра яе захаванне? Што сёння кідаем у гаршчок?

Вернемся ў палову XIX стагоддзя. Адам Буцькевіч — цэнены лекар, памешчык, літоўскі патрыёт, народжаны ў маёнтку Зубоўшчына каля Бабікаў Шудзялаўскай гміны, у сваіх рукапісах пакінуў патомным, між іншым, штодзённае меню навакольных сялян: „Зімою стары бацька на змену з дарослымі ўнукамі ў жорнах (ручны млынок) мелюць збожжа ў запас, рыхтуюць крупы з ячменю і грэчкі. Гаспадыня, адкарміўшы парася, робіць запас вэнджанага сала на цэлы год, салёнага сала, каб засіцаць страву. Правэндзяць барана, восенню наквасяць капусты, падрыхтуюць боршч. Кожны дзень абавязкова кіслая страва, звараная з баршчу ці квашанай капусты. Апрача таго рыхтуюць хлебны квас: кідаюцца недаедкі хлеба, скарынкі. Заліваюцца вадой і гэта ў цёплых месяцах падвяргаецца ферментацыі. Кіслыя ежа і напіткі неабходныя для жыцця і здароўя чалавека ў яго на поўнач размешчаным клімаце; без квасу сяляне па вёсках пакутуюць ад цынгі, часта абязлюджваючай цэлыя сем’і. Патрабуюць таксама, і ў тым смакуюць, каб ежа была моцна пасоленай. Селянін, еўшы нявымачаныя селядцы, макае іх у соль і радуецца такой ежай. У выбары харчавання ён неперабарлівы, але патрабуе значнай колькасці хлеба, трохі кіславатага. Справа таксама ў колькасці ежы, гэтай якраз патрабуе шмат. Страўнікі ў іх з юнацтва разапхнутыя „масамі”, і каб належна страваваць, патрабуюць пэўнай колькасці харчоў. Страву спажываюць надта павольна, з працяглым адпачынкам” (A. Garbuz, R. Tumiel, *Obraz wsi sokólskiej połowy XIX wieku w rękopisie Adama Bućkiewicza*, Sokółka 2011, s. 57).

Ян Пятэльскі

Цікава, ці тагачасныя падсакольскія сяляне ведалі, што гэта такое малодзіва. Рэцэптам таямнічага (прынамсі сучасным жыхарам) ласунку падзяліўся з нашымі чытачамі карэнны жыхар Крушынян Ян Пятэльскі.

— Малодзівам, у першую чаргу, называлі малако ад каровы, якая толькі што ацялілася, — паясняе спадар Ян. — Было яно надта сытым і пажыўным, хутка ставіла цяля на ногі.

Страву рыхтавалі такім чынам: даілі астаткі нявысмактанага цялём малака, дабаўлялі невялікую колькасць мукі і солі. Атрыманую густую масу вылівалі на разагрэтую патэльню і смажылі на пліце, а таксама вылівалі ў каструлю і ставілі ў печку.

— Другі спосаб быў больш распаўсюджаным, — сцвярджае спадар Ян. — Малодзіва расло ў печы як на дражджах, амаль уцякала з каструлі. Яно мела прыемны жоўты колер. Частаваліся малодзівам пераважна раз у год, на працягу больш-менш трох, пераважна зімовых, дзён.

Хочацца пакаштаваць малодзіва, але як, калі ў наваколлі кароў як на лякарства.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН

# Адгаданка

1. прадаўгаваты кавалак тканіны для выцірання цела, 2. першая, самая моцная самагонка, 3. круглы лік у... Беластоку, 4. распалены металічны прут, якім прапякаюць дзіркі, напрыклад, у дрэве, 5. буйны знішчальны агонь, 6. Эліза, гродзенская пісьменніца (1841-1910), 7. адтуліна ў вясёлкавай абалонцы вока, 8. гарбата, 9. няшчасце.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — італьянская пагаворка. (ш)

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | | | 2 | 3 | | |
| | | | | | | 4 | | |
| | | | | 5 | | | | |
| | 6 | | | | | | | |
| 7 | | | | | 8 | | 9 | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 39 нумара**

Баян, жонка, Зан, лес, мора, пан, рэле, скура, тыдзень, Ява.

Рашэнне: **Краса патрэбная на вяселле, а розум на кожны дзень**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яну Міхалюку** з Чыжоў і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

# 19.10 — 25.10

**(22.03. — 20.04.)** Будзеш чараваць аж да 23.10.! 18-22.10. набярэш ахвоты на змены ў сваім выглядзе, стылі жыцця. Ідзі за гэтым імпульсам, бо тое, што вырашыш, прынясе табе шмат задавальнення. Не будзеш турбавацца тым, што прынясе заўтра і можаш лішне расшпіліць кашалёк. Лёгка наладзіш рамантычныя адносіны, на працы цябе таксама прыкмецяць.

**(21.04. — 21.05.)** Бліснеш інтэлектам і ведамі. Найбольшым тваім тузом будзе рашучасць. Даедуць да цябе даўно нябачаныя сваякі. Сябры могуць апынуцца ў кабале, кінешся ім на дапамогу, прытым можаш перамадэляваць і сваё жыццё. Спакойная і поўная суадчування размова ўчыняе цуды. Дацэняць тваю крэатыўнасць і творчасць.

**(22.05. — 22.06.)** У любоўных сувязях падтрымае цябе Венера. Самыя гарачыя рандэву: 18-22.10. Сустрэнеш кагосьці, з кім нагаворышся не адну ноч. У пары — раз на возе, раз пад возам. Задбай аб свае зубы, бо нялечаныя будуць дакучаць табе пару месяцаў.

**(23.06. — 23.07.)** Вельмі пільнуйся з тым, што гаворыш, асабліва 22-25.10. Трымайся здалёк ад эмацыянальных шантажыстаў і людзей, якія спрабуюць на табе штосьці вымагчы. 18-22.10. — найлепшы час на далейшыя падарожжы. Раку народжанаму паміж 15 і 20.07. паможа ў праблеме сябра. Дбай аб сваю пячонку.

**(24.07. — 23.08.)** Да 23.10. нічога не папсуецца ў адносінах у пары. Можа быць горш у справах з далейшай раднёй, асабліва з асобамі, якім здаецца, што ты для іх на паслугах і не можаш адмовіцца. Не афармляй спраў з новай працай, яшчэ не хадзі на кваліфікацыйныя размовы.

**(24.08. — 23.09.)** 18-21.10. можаш з поспехам рушыць з новым праектам. Не будзь лішне настойлівым у пачуццях, каб не напалохаць мілай табе асобы. Ажыўленне ў кампанейскім жыцці. Шанц пазнаёміцца з кімсьці вельмі цікавым, хто можа стаць тваім сардэчным сябрам. Вечарамі прымяняй араматэрапію. Задбай аб справы ва ўстановах, у натарыуса, адваката.

**(24.09. — 23.10.)** Прыцягваеш людзей да сябе як магніт. У пары задбай аб супольныя прыемнасці. Блізкія сваякі звернуцца да цябе па неадкладную дапамогу; пастарайся, бо неўзабаве ты будзеш патрабаваць іхняй. Дбай аб рух і здаровую кухню. Вырашай на працы стратэгічнае, але лепш не выхіляйся.

**(24.10. — 22.11.)** Рамантычная атмасфера. Будзеш уражлівы на красу іншага полу. Ліпнуць будуць да цябе і людзі, і грошы (ад 23.10.)! 23.10. будзь вельмі асцярожны! Гарачыя адносіны. Скарпіёны народжаныя паміж 15-19.11.: у вашых любоўных планах можа памяшаць Сатурн. Распіраючая цябе энергія ідзе ў пары са знакамітым настроем; прыемнасці. Добры час на рэабілітацыю, біялагічную абнову. Не насі з сабою многа грошай.

**(23.11. — 22.12.)** Можаш пачаць крыху наракаць на здароўе. Старайся спраўляцца са стрэсам. Дыета не паможа. Многа працы і выклікаў. Стаў перад сабою новыя мэты і амбітныя заданні. Прыдасца новая матывіроўка. Не закрывайся ў кругу старых спраў. З 23 (да 27.10.) пазбудзешся ўрэшце таго, што не давала табе поўнасцю карыстацца жыццём.

**(23.12. — 20.01.)** 18-22.10. абмяркуй важныя справы з каханай асобай. У гэты час можа вырашыцца для цябе найважнейшае! Дзеці варта загнаць да працы, а пасля ўзнагароджваць. Казярогі народжаныя 1-4.01. будуць мець проста нялюдскую сілу, каб пераканаць іншых. Фінансавая сітуацыя стабільная, але без узлётаў.

**(21.01. — 19.02.)** Добры час на сустрэчы. Растуць вітальныя сілы, але пасля могуць прытрапіцца кантузіі ног, ступакоў. Трэба будзе вярнуцца да спраў быццам бы даўно аформленых. 18-22.10. маеш гарантаваны дабрабыт. Паявяцца магчымасці падпісання карысных дамоў.

**(20.02. — 21.03.)** Руціна і крыху нуды. Але танец паможа табе пазбыцца дэсертных калорый. У фінансах няблага, можаш зарабіць (і выдаць) сапраўды немалыя грошы. На працы паскарэнне, прытым хопіць трэнняў і канфліктаў. Рыхтуйся на неабавязкова джэнтльменскае супернiцтва; моцна трымайся свайго курсу.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2014 roku — 52.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Украіна
## ў цяні вайны (5)




У маршрутцы з Пачаева ў Цярнопаль панавалі сціск і духата, што не расказаць... Аднак, насупраць абставінам, ніхто не злаваўся, не наракаў. Наадварот, аблічча жанчын, якія вярталіся з Лаўры, праменілі радасцю і дабрынёй. Палова цётак не патрапіла стрымаць таго шчасця. Яны кудысьці званілі і сакаталі праз свае мабілкі. Іх урачысты гоман мяшаўся са шчымлівымі песнямі пра ідэальнае каханне, якія на ўсю катушку паставіў шафёр. Гэтая энергетыка жыццёвай задаволенасці і ўпэўненасці, што ўсё будзе добра, як жывое звяно перадавалася з галавы ў галаву, з сэрца ў сэрца...

Духам і целам я адчувала падобную эйфарыю і шчасце. Дзікі сціск у салоне зусім мяне не хваляваў і не стамляў. Тым часам сціск і духата ў маршрутцы ўзмацняліся з кожным кіламетрам. Шафёр спыняўся на кожным прыпынку і падбіраў усіх жадаючых ехаць. Дадатковыя пасажыры, насуперак правілам фізікі, траплялі ўсярэдзіну са сваімі агромністымі багажамі, каб яшчэ ў большай цеснаце і духаце разам з апошнімі сакатаць або летуценіць з прыжмуранымі вачыма пад шчымлівыя шэдэўры...

Пра дарожную катастрофу і сінякі ад выпадковых удараў на выбоістым шляху ніхто не хацеў думаць...

— Каб толькі такой нам бяды, — пракаментавала той сціск Марыя. — Мы хоць у цеснаце, але не ў крыўдзе.

* * *

Марыя, ад галавы да пятак, напамінала чыстую задаволенасць. Яна, як амаль усе жанчыны, спачатку пасакатала праз мабілку, палетуценіла з прыжмуранымі вачыма пад чароўныя песні,



а пасля пачала абедаць. Яна дабыла з паласатага пакета два вараныя яйкі ў шкарлупінках, далажыла белую манастырскую булку і слой з рыжай вадкасцю. Пасля яды акуратна перажагналася і пацалавала ў свой масіўны крыжык.

У дарозе з Пачаева ў Цярнопаль ад нечаканага прытоку шчасця я не адчувала душных пахаў. Наадварот, вобраз Марыі з крутымі яйкамі ў дарозе наклікаў сардэчны ўспамін саракагадовай даўнасці. Перад вачыма мроіліся сямейныя пілігрымкі ў пушчанскую Крыначку. Пасля багаслужбы сем'і сядалі ля воза і спажывалі абед прывезены з сабою. Сярод паломніцкага меню на першым месцы былі вараныя яйкі. Паціху мы зайздросцілі суседзям, у якіх былі „купленыя" прадукты, іх усякія кансервы і аранжады....

— Украінскі пенсіянер не ходзіць у магазін, — быццам у апраўданне сваёй хатняй яды сказала Марыя. Жанчына ледзь заашчадзіла сто грывень на дарогу, каб прыехаць на аўтобусе ў Лаўру. Але ж Бог дапамог, ёй пашанцавала...

Кошт падарожжа ў абодва бакі, які нам здаваўся сімвалічным (каля васьмі долараў), для пенсіянеркі Марыі складаў дзясятую частку хатняга бюджэту. Каб звесці канцы з канцамі, жанчына вымушана дзень і ноч думаць пра ашчаднасць. Не памятае, калі апошнім разам мыла пасуду пад праточнай вадой з крана. Калі мыла вопратку ў пральнай машыне. Калі заходзіла ў хатні туалет, каб пасікаць. Сама думка, што прыйдзецца плаціць чарговыя сто грывень за асенізацыйныя паслугі, выганяла яе на вуліцу, дзе стаіць старая прыбіральня з дошак. Але ўсё добра. Дастаткова нагрэць ваду, узяць таз і затачыць рукавы...

Марыя сама па сабе элегантка, у яе залатыя зубы і такія ж завушніцы. І шаўковыя блузачка і хустка. Свае якасныя апранахі купіла з другой рукі, у сэкандгэндзе. Яны больш трывалыя як тое кітайскае шмоцце!

Мы не спыталі колькі ў хатнім бюджэце Марыі складае аплата за тэлефон. У час нашай гутаркі ёй зноў аднекуль пазванілі. Бабулька засакатала праз сваю мабілку, выпраменьваючы навокал радасць і шчасце. Гутарка цягнулася дваццаць пяць хвілін...





* * *

У цяні вайны ўсе малыя радасці і дробязі набылі дадатковае значэнне. Едучы ў неверагодным сціску, сярод таўканіны, сакатання і шчымлівых напеваў, мы таксама адчувалі поўную задаволенасць. На гэта, здавалася, спрацаваў увесь космас. Пасля поўдня надвор'е перамянілася, замест дажджу і халадэчы зноў настала сонечнае лецечка. Праз акно маршруткі мы смакавалі ландшафт, які наклікаў добры спакой. Рыжыя загоны кукурузы і сланечніку калыхаліся ў лагодным ветры і, здавалася, яны пазалочаныя сонцам. У прыродзе, быццам у люстры, усё яшчэ адбіваўся пакінуты за плячыма свет Лаўры. Усе тыя прапагандысцкія прамовы, якія яшчэ некалькі гадзін таму хвалявалі і ранілі нацыянальны гонар, зараз успрымаліся як мёртвая муха...

На момант развеялася змрочнае рэха вайны, дурныя паклёпы, засакрэчаная крыўда. Аблічча жанчын, ранейназначаныя балючай трывогай, зараз зззялі загадкавым бляскам.

Гэтую цудоўную перамену мы ўлавілі ўжо раней. Калі пасля пяцігадзіннай вячэрні мы вярталіся цёмным завулкам у хату Надзі, дзесьці з манастырскай гары залуналі святыя спевы. У паветры на міг пацяплела. Жаночы хор выспеўваў багародзічныя акфісты.

Пачуццё цеплыні мацавала радзімая нотка. Здавалася, жанчыны спявалі на падляшскі манер, як сто-дзвесце гадоў таму назад... Мы ішлі ў сагрэты сяброўскімі пачуццямі дом, дзе чакала нас вячэра з хатнім вінам.

А пасля тое пачуццё цуду распухла і набрыняла ў загружанай да немагчымага маршруткі. У гэты дзень нам усё спрыяла і дапамагала. Здавалася, нават аўтобусы ведалі куды нам трэба ехаць і што трэба пабачыць, перажыць. Бо ў цэлым гэтым залатым заканоце мы падарожнічалі без плана, а мэта была ўжо за нашымі плячыма.

(працяг будзе)

**Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК**

# УВАГА
## КОНКУРС

## XVII Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы" і Беларускі саюз Рэспубліке Польшча аб'яўляюць XVII Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы.** У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.

***Прынцыпы ўдзельніцтва***

1. Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— **І група:** дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,

— **ІІ група:** астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

2. У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

3. Конкурсныя працы, набраныя на камп'ютары або разборлівы рукапіс у двух экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас: **Redakcja „Niwy", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84** з прыпіскай на канверце: XVII Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

4. Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

5. На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

6. Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

***Тэрміны***

1. Тэрмін дасылання **да 16 лістапада 2014 г.** (вырашае дата паштовага штампа).

2. Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены ў снежні 2014 г.

3. Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра адміністрацыі і лічбавізацыі.


ISSN 0546-1960